



# Рэгіянальная газета. Rh.by




НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

28 красавіка 2017 года №17 (1148)


# "Энергаблок БелАЭС вытрымае нават падзенне самалёта"

Начальнікі змены БелАЭС Андрэй Труноў і Мікалай Алесік прыехалі на работу ў Астравец з Украіны.

старонкі 20-21

Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

## Якім будзе сезон вяселляў у Маладзечне



старонка 3

## Аварыя на пуцеправодзе ў Маладзечне: загінуў пасажыр

старонка 4

## Трохразовая чэмпіёнка Беларусі па дзюдо жыве ў Смаргоні

старонка 22

## Крыжаванка, судоку

старонка 23


**Открылась НОВАЯ аптека**
*в г. МЯДЕЛЬ по ул.17 Сентября,15-14!*
Режим работы: с 09.00 до 21.00 - рабочие дни; с 09.00 до 19.00 - выходные дни
**Тел. аптеки (8-01797) 2 24 46**
В продаже
**ШИРОКИЙ АССОРТИМЕНТ**
лекарственных средств отечественоого и импортного производства.
**ХОРОШИЕ СКИДКИ**
на товар отечественного производства!!
ООО «Моя аптека» УНП 190593725

Золотая мечта ювелирная сеть
**РАССРОЧКА на выгодных условиях!**
**СКИДКИ** на золото на серебро ДО -50%
**Молодечно, Волынца, 7** (80176) 777-923
**Молодечно, Притыцкого, 25** (80176) 77-00-55
ООО "БигПрайм" УНП 691511104

**Купим б/у сельхозтехнику:**
- ДОН 1500Б
- ЛИДА 1300
- New Holland
- Claas Lexion
- BIZON и т.д.
- МТЗ-1221.2
- МТЗ-82.1, 80.1
- жатки

Тел. (29) **771 55 44**, (29) **323 83 36**, (17) **205 09 00.**
ООО «Альбитек» УНП 191682107

www.hors-motors.by
МЕЧТАЕТЕ О НОВОЙ ТЕХНИКЕ?
ТОРГОВАЯ СЕТЬ HORS MOTORS
У нас вы сможете купить: Скутеры • мопеды • велосипеды • квадроциклы • мотокультиваторы • мотокосы • бензогенераторы • сварочное оборудование • мотопомпы • двигатели для мотоблоков и МТЗ • тачки строительные
ДИСКОНТ
ГАРАНТИЯ • ЗАПЧАСТИ • КРЕДИТ • НАЛИЧНЫЙ И БЕЗНАЛИЧНЫЙ РАСЧЕТ
Ремонт любой сложности (033) **660-72-55**
**Молодечно, ул. Я.Дроздовича, 1-99** (бывший магазин «1000 мелочей»)
Частное предприятие "ХОРС-МОТОРС" УНП 190849085



Фота забяспечанае Аляксандрам ДАРАШЭВІЧАМ.

Вольга і Аляксандр Дарашэвічы на прыборцы.



Фота забяспечанае Аляксандрам ДАРАШЭВІЧАМ.

Падчас прыборкі на Сарачанскіх азёрах.

# “Пластык выцягвалі з-пад каранёў дрэў”

## Як прыборка ў межах акцыі “Зробім!” аб'яднала жыхароў Астравеччыны

**АСТРАВЕЦ**

**Больш за 2 500 літраў смецця вывезлі на гэтых выхадных з Сарачанскіх азёраў, што на Астравеччыне. 22 красавіка тут прайшла акцыя прыборкі ў межах міжнароднага руху “Зробім!”.**

Акцыя ў дзень Зямлі тут становіцца ўжо традыцыйнай. Другі год запар прыборку на тэрыторыі Сарачанскіх азёраў ладзіць **Аляксандр Дарашэвіч**, які разам з сям'ёй тры гады таму пераехаў з Мінска на Астравеччыну, у вёску Вялікая Страча.

### Асноўнае смецце – бутэлькі з-пад піва

Нягледзячы на тое, што пахмурнае раніцняе надвор'е напужала некаторых валанцёраў, на прыборку сабралася 27 чалавек. Як і летась, да валанцёраў далучыліся вучні Спондаўскай школы. Упершыню ў акцыі “Зробім!” прынялі ўдзел супрацоўнікі астравецкага аддзялення Беларускага таварыства паляўнічых і рыбаловаў.

– Як і заўсёды, мерапрыемства прайшло на пазітыве, – дзеліцца ўражаннямі Аляксандр Дарашэвіч. – Як толькі мы выйшлі да месцаў прыборкі, надвор'е наладзілася. Мы збіралі смецце на трох участках: на двух упершыню, на адным з іх працавалі летась.

**Аб'ёмы сабранага смецця ідуць на тысячы літраў: на рацэ Страча валанцёры сабралі яго больш за 2 000 літраў, на возеры Падкасцёлак – 400 літраў.**

Канчатковую лічбу валанцёры назавуць пасля таго, як вывезуць усё смецце. Рака Страча – улюбёнае месца аматараў водных сплаваў і рыбакоў. Таму колькасць смецця ў яе ваколіцах, на жаль, не змяншаецца.

– У асноўным даводзілася збіраць пластыкавыя бутэлькі, пераважна ад піва, – кажа арганізатар. – Таксама шкляныя бутэлькі ад спіртнога. Паколькі гэта ўжо другая акцыя, то адчуваецца змена ў рэакцыі мясцовых жыхароў. Яны бачаць, што мы не проста прыбраліся адзін раз, і ўжо іначай глядзяць на мерапрыемства.

### Кусты і дрэвы ўжо “прыбралі” бутэлькі да сябе

Жыхарка Астраўца **Алена Раткевіч** спецыяльна прыехала на Сарачанскія азёры, каб паўдзельнічаць у акцыі. Для яе гэта першы ўдзел у мерапрыемстве.

– Прыехала, бо, папершае, вельмі люблю чысціню, а па-другое, у мяне ўжо той узрост, калі адчуваецца адказнасць за будучыню, – тлумачыць дзяўчына. – Шмат пластыку мы знаходзілі нават у каранях, дрэвы і кусты ўжо “прыбралі” яго да сябе. Ад гэтага нават крыўдна робіцца... за людзей.

Алена падкрэслівае: каштоўнасць акцый “Зробім!” у тым, што людзі ўдзельнічаюць у іх не пад прымусам, а па ўласным жаданні – прыходзяць са сваімі пальчаткамі, маючы пэўныя прыярытэты і жаданне нешта зрабіць.

– Вялікая хвала арганізатарам! – дадае Алена. – З такімі цудоўнымі людзьмі вельмі весела, і душачка радуецца! Аляксандр і Вольга Дарашэвічы, якія трымаюць на Сарачанскіх азёрах аграсядзібу, і без акцый пастаянна прыбіраюцца ў лесе і ўвогуле сябруюць з прыродай, за што ім вялікі дзякуй. На днях мы яшчэ раз паедзем да іх на прыборку.

Гасцінныя гаспадары пасля дзвюх гадзін працы запрасілі ўдзельнікаў прыборкі да сябе – на гарачы чай і спартыўныя гульні.

### “Трэба мяняць мысленне ў стылі “на мой век хопіць”

Аляксандр Дарашэвіч падкрэслівае, што для яго самае галоўнае ў руху “Зробім!” – не столькі арганізацыя канкрэтных прыборак, колькі спроба змяніць мысленне мясцовых жыхароў.

– Паўсюль я назіраю пагружэнне ў бездань смецця, – кажа мужчына. – Калі ў дварах яшчэ неяк прыбіраюцца, то нормай лічыцца выкінуць смецце па-за межы свайго ўчастка. Зразумела, што гэта адбываецца з-за папушчальніцтва ўлады – сельсавета. Ніхто асабліва не стараецца схаваць смецце. У некаторых вёсках яно ляжыць проста паабапал дарог, па якіх ездзяць людзі, адказныя за парадак.

Аляксандр заўважае, што валанцёрскія акцыі не могуць цалкам змяніць сітуацыю. Але ў сілах валанцёраў прыцягнуць увагу да праблемы смецця, каб улады патрабавалі больш адказнасці ад мясцовых жыхароў і тых, хто прыязджае на адпачынак.

– Трэба, каб улады зразумелі катастрафічную сітуацыю з забруджваннем прыроды і прынялі жорсткія меры, – заключае ён. –

**Вынік забруджвання – не толькі вымiранне жывёл, птушак і насякомых, але і пагаршэнне здароўя людзей.**

Адсюль – неабходнасць дадатковага фінансавання сістэмы аховы здароўя. Сітуацыя, якую я назіраю ў Беларусі, не дадае аптымізму: уласнікі зямлі глядзяць на яе ў кароткачасовай перспектыве, па прынцыпе “на мой век хопіць”.

Рух “Зробім!” не заканчваецца прыборкай 22 красавіка. Мерапрыемствы будуць працягвацца да 30 верасня. Пабачыўшы ў ваколіцах смецце, не спяшайцеся адвесці вочы. Далучыцца да каманды валанцёраў ці стварыць сваю ніколі не позна.



Аляксандра ПАРАХНЯ
E- mail: alesia.ptushka@gmail.com

Колькі каштуе ўзяць шлюб?

Выязная рэгістрацыя
10 базавых велічынь
(230 рублёў)

У ЗАГСе

Малая зала
1 базавая велічыня
(23 рубля)
да 10 чалавек

У кабінеце
0,5 базавай велічыні
(11 рублёў 50 капеек)
4 чалавекі

Рэгістрацыйная зала
2 базавыя велічыні (46 рублёў) – 30 чалавек
3 базавыя велічыні (69 рублёў) – больш за 30 чалавек

Паводле аддзела ЗАГС Маладзечанскага райвыканкама

**ЛІЧБА НУМАРА**

**21%** на столькі скарацілася колькасць вяселляў

64 536 – шлюбы ў 2016 годзе

82 030 – шлюбы ў 2015 годзе

Паводле Белстата

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 20.04 | 27.04 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1,8799 | **1,8694** |
| Еўра | 2,0162 | **2,0409** |
| Злоты, 10 | 4,7360 | **4,8164** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,3482 | **3,3177** |
| Грыўня, 100 | 7,0086 | **7,0331** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" 19.04 і 26.04** | | |
| Еўра | 1.9900/2.0150 | 2.0000/2.0450 |
| Долар ЗША | 1.8600 /1.8830 | 1.8550/1.8790 |

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 19.04 | 26.04 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 16,85 | **16,85** |
| Сасіскі "Малочныя", 1 кг | 6,93 | **6,93** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,25 | **3,25** |
| Свініна (вырazка), 1 кг | 8,00 | **8,00** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,50 | **4,15** |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,50 | **13,80** |
| Рыс, 0,9 кг | 1,45 | **1,45** |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,50 | **2,50** |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 1,80 | **1,80** |
| Алей "Фермер", 1 л | 2,20 | **2,20** |
| Маянэз, 200 г | 0,65 | **0,65** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 5,20 | **5,20** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 1,90 | **1,90** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,75 | **0,95** |
| Часнок, 1 кг | 6,95 | **6,95** |
| Капуста (маладая), 1 кг | 2,60 | **1,95** |
| Морква (маладая), 1 кг | 0,55 | **1,29** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 1,69 | **3,80** |
| Лімоны (маладыя), 1 кг | 3,85 | **4,69** |
| Апельсіны, 1 кг | 2,49 | **2,49** |
| Мандарыны, 1 кг | 2,75 | **2,95** |
| Радыска, 1 кг | - | **2,95** |
| Ківі, 1 кг | 4,69 | **4,69** |
| Буракі, 1 кг | 0,59 | **0,59** |
| Памідоры, 1 кг | 4,75 | **4,20** |
| Агуркі, 1 кг | 4,20 | **3,79** |
| Перац, 1 кг | 5,95 | **5,79** |
| Грэйпфрут, 1 кг | 2,70 | **2,95** |
| Вінаград, 1 кг | 5,95 | **5,50** |
| Бананы, 1 кг | 2,49 | **2,59** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,45 | **1,49** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 3,35 | **3,45** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,20 | **1,20** |
| Масла, 1 кг | 11,00 | **11,00** |
| Тварог, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Бульба, 1 кг | 0,50 | **0,60** |
| Сала, 1 кг | 10,00 | **10,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 2,50 | **2,50** |
| Мёд, 0,5 л | 6,50 | **6,50** |

# У чэрвені – спакойна, у ліпені і жніўні – аншлаг

## Якім будзе сезон вяселляў у Маладзечне сёлета

МАЛАДЗЕЧНА

**– У пост маладыя пары не рызыкавалі ладзіць вяселлі, – адзначае начальніца аддзела ЗАГС Маладзечанскага райвыканкама Ала Івашкевіч. – Пераважна распісваліся пары, якія бяруць паўторны шлюб, якім трэба ўпарадкаваць дакументы; некалькі пар, у якіх нявесты былі цяжарныя.**

Для ўрачыстай рэгістрацыі шлюбу выбіралі даты пасля Вялікадня. Пачынаючы ад 21 красавіка ў ЗАГСе аншлаг, у гэты дзень бяруць шлюб 13 пар. Пры гэтым рэгістрацыі будуць ад самай раніцы. Напружаны дзень у работнікаў ЗАГСа і 28, і 29 красавіка. А пасля гэтага для вяселляў перапынак.

– У маі ўрачыстыя вяселлі – адзінкавыя выпадкі, – дзеліцца досведам начальніца аддзела ЗАГС Маладзечанскага райвыканкама. – Баяцца маладыя ўсё жыццё маяцца. Таму не рызыкуюць звязаць сябе шлюбам. Аднак сустракаюцца пары, якія ідуць насуперак усім перасцярогам, напрыклад, жэняцца ў маі ў высакосны год. Былі маладыя, якія спецыяльна чакалі пятніцу, 13-га, каб ажаніцца. Пры гэтым вельмі прасілі, каб іх распісалі ў 13:00.

Работнікі ЗАГСа ўпэўненыя, калі ёсць перасцярога наконт даты вяселля, то лепш пачакаць іншага дня, не рызыкаваць сваім будучым шчасцем, не трэба выпрабоўваць лёс. Калі пачуцці сапраўдныя, варта ўсё ж пачакаць некаторы час.

У чэрвені таксама няшмат вяселляў, у сярэднім 10-11 пар па пятніцах і суботах. Гэта можа быць звязанае з тым, што ад 12 чэрвеня і да 11 ліпеня доўжыцца Пятроўскі пост.

– У ліпені маладым палюбіліся суботы, – зазначае Ала Івашкевіч. – Пачынаючы ад 15 ліпеня запоўненыя ўсе суботы. На пятніцы яшчэ ёсць месцы. Вельмі насычаны будзе і жнівень. Ужо пададзеныя заявы на 2 і 9 верасня. У кастрычніку пакуль толькі адна дата забраніравана – 14 кастрычніка, на Дзень Маці.

Як адзначаюць у ЗАГСе, папярэдне можна запісацца на любую дату, каб спакойна рыхтавацца да ўрачыстасці.

**Для неўрачыстай рэгістрацыі шлюбу месцы ёсць на ўвесь год.**

### Колькі каштуе ажаніцца?

Пытаюцца маладыя і пра выязныя шлюбы. Аднак часта спыняе цана – паслуга каштуе 10 базавых велічынь (230 рублёў).

Калі на вашай урачыстасці будзе да 30 чалавек, за паслугу трэба заплаціць дзве базавыя велічыні (46 рублёў). Калі будзе прысутнічаць больш за 30 чалавек, прыйдзецца аддаць тры базавыя велічыні (69 рублёў). Рэгістрацыя будзе праходзіць у рэгістрацыйнай зале.

Калі вы вырашылі засведчыць свае адносіны ў коле самых блізкіх людзей, да дзесяці чалавек, урачыстасць будзе праходзіць у малой зале, будзе каштаваць 1 базавую велічыню (23 рублі). Калі на ўрачыстасці будуць прысутнічаць чатыры чалавекі, маладыя і сведкі, вам прапануюць засведчыць адносіны ў кабінеце. Абыдзецца гэта ў 0,5 базавай велічыні (11 рублёў 50 капеек).

**Галіна СУДНІКОВІЧ.**

## Шэсць шматкватэрных дамоў пабудуюць ў мікраараёне Паўночны-2

ВІЛЕЙКА

У вілейскім мікраараёне Паўночны-2 цяпер штодзённа працуе экскаватар.

Тут пачалі будаваць інжынерна-транспартную інфраструктуру для новай часткі шматпавярховай забудовы.

Разам з інфраструктурай у хуткім часе пачнуць будаваць пяціпавярховы 80-кватэрны дом. Ён стане першым у лініі, складзенай з трох 80-кватэрных і трох 40-кватэрных дамоў.

Дамы ў П-падобнай форме ўтвораць тры двары з агульным праездам за іх межамі. Уздоўж аўтадарогі Р-29 будзе праезд з дадатковымі парковачнымі месцамі.

Пра гэта расказаў галоўны архітэктар Вілейскага райвыканкама **Дзмітры Гарланаў**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**


Фота Ігара МАРОЗА.

25 красавіка ў мікраараёне Паўночны-2.

НАВІНЫ

## Ратавалі байдарыстаў

МЯДЗЕЛ

А палове пятай вечара 22 красавіка па лініі "101" ад турыстаў паступіла паведамленне, што яны на дзвюх байдарках знаходзяцца на возеры Мястра і самастойна не могуць рухацца з-за высокіх хваляў і моцнага ветру.

Пасля прыбыцця да месца выкліку работнікаў МНС і таварыства выратавання на водах інфармацыя пацвердзілася: чатыры чалавекі адсталі ад асноўнай групы і іх хваляй прыбіла да прыбярэжнай зоны ў чарот. З-за сустрэчнага ветру і высокіх хваляў група не здольная была самастойна перасоўвацца па маршруце.

Правялі работы па выратаванні на маторных лодках. На беразе турыстаў агледзелі: у медыцынскай дапамозе яны не мелі патрэбы.

**Паводле Міністэрства па надзвычайных сітуацыях.**

## У лабавым сутыкненні разбіліся "Мерсэдэс" і "Вольва"

СМАРГОНЬ

У нядзелю, 23 красавіка, у Смаргонскім раёне адбылося лабавое сутыкненне.

Каля вёскі Шчопаны юнак, вадзіцельскі стаж якога складае чатыры месяцы, няправільна выбраў хуткасць.

На ўчастку, які пазначаны дарожнымі знакамі "Небяспечны паварот", ён дапусціў выезд "Мерсэдэса" на сустрэчную паласу.

Пасля сутыкнення кіроўцу "Вольвы" шпіталізавалі.

**Паводле gaigrodno.by.**

## Прадаўцы дагналі злодзея і адабралі гарэлку

ВІЛЕЙКА

Увечары 23 красавіка мужчына зайшоў у адзін з магазінаў, узяў з паліцы бутэльку гарэлкі, схаваў яе ў кішэнь і пайшоў міма касы.

З дапамогай людзей, якія былі побач, прадаўцы дагналі злодзея, затрымалі яго, адабралі бутэльку і выклікалі міліцыю.

56-гадоваму мясцоваму жыхару пагражае пазбаўленне волі да шасці гадоў.

Пра гэта расказаў следчы вілейскага Следчага камітэта **Яўген Мягкоў.**

**Аксана ЯРАШОНАК.**

Партизанский (г. Минск) отдел Департамента охраны МВД РБ приглашает на службу на должности

• МИЛИЦИОНЕРОВ
• МИЛИЦИОНЕРОВ-ВОДИТЕЛЕЙ

лиц, прошедших срочную службу в армии или с высшим образованием либо средне-специальным, годных к строевой службе, возраст до 25 лет

З/п от 600 руб.*

иногородним предоставляется общежитие
кандидаты имеют возможность пройти льготное обучение на курсах водителей кат. В

Тел.: (017) 245-67-83
8 (029) 550 05 63, 8 (029) 124 34 57
Обращаться: г. Минск, ул. Уральская, 9-б

УНП 100349886

## Паспрачаліся, хто за што сядзеў. У выніку – нажавое раненне

МАЛАДЗЕЧНА

Хто за што і дзе сядзеў – такая спрэчка ўзнікла 22 красавіка ўвечары ў адной з кватэр па вуліцы Францішка Скарыны ў Маладзечне.

47-гадовы і 27-гадовы раней судзімыя мужчыны разам выпівалі. Яны паспрачаліся. Спрэчка перайшла ў бойку.

Старэйшы мужчына ўзяў нож і стукнуў у грудзі малодшага. З колата-рэзанай ранай з і пашкоджаннем лёгкага пацярпелага адвезлі ў бальніцу, дзе яму зрабілі аперацыю.

## Злачынец з паламанай рукой абакраў кватэру знаёмага

МАЛАДЗЕЧНА

Некалькі злачынстваў за месяц здзейсніў 31-гадовы жыхар Маладзечна.

13 лютага мужчына вызваліўся з турмы. А ў канцы сакавіка ўжо залез у машыну, якая стаяла на дарозе ля дома, і скраў там акумулятар і набор ключоў.

Праз тыдзень у двары дома на праездзе Рачным таксама скраў набор ключоў з машыны і электраінструмент з гаража.

17 красавіка мужчына разбіў шкло ў доме свайго знаёмага і вынес адтуль відэакамеру, факс-мадэм і прадукты. Апошняе злачынства ён здзейсніў з паламанай рукой у гіпсе.

Цяпер маладзечанец пад вартай.

Пра гэта расказаў старшы следчы маладзечанскага Следчага камітэта **Юры Багушэвіч**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

### Праўка

У №16 "Рэгіянальнай газеты" ад 21 красавіка ў матэрыяле "Дзеці не бачацца з мамай тыднямі, чуюць яе голас толькі па тэлефоне – жанчына ў бальніцы" была дапушчана памылка. Неабходныя аналізы рабілі не дзецям Алены Рухлі, а брату Сяргею і сястры Надзеі. Аднак стваловыя клеткі донараў і хворай не супадаюць.

# Аварыя на пуцеправодзе: загінуў пасажыр

МАЛАДЗЕЧНА

**На пуцеправодзе на вуліцы Віленскай 24 красавіка кіроўца "Аўдзі А6" не справіўся з кіраваннем і стукнуўся ў адбойнік.**



На месцы здарэння.

Фота забяспечанае Следчым камітэтам.

Кіроўцу 24 гады. Ён – жыхар Мінска. Пра гэта ў МНС паведамілі каля чатырох гадзін раніцы.

З дапамогай гідраўлічнага інструмента супрацоўнікі МНС дасталі загінулага мужчыну. Ён знаходзіўся на пасажырскім сядзенні.

Усяго ў аўтамабілі было шэсць чалавек. Пяцярых даставілі ў бальніцу. Траіх з іх шпіталізавалі, дваіх пасля агляду адпусцілі дадому.

Цяпер упраўленнем Следчага камітэта па Мінскай вобласці ўстанаўліваюцца абставіны дарожна-транспартнага здарэння, у выніку якога адзін чалавек загінуў, кіроўца і яшчэ двое пасажыраў з траўмамі рознай ступені цяжкасці шпіталізаваныя.

Следча-аператыўная група правяла агляд месца здарэння, сабрала дадзеныя аб удзельніках трагедыі, зафіксавала аб'екты і сляды, якія маюць значэнне для ўстанаўлення часу, характару і іншых абставінаў таго, што адбылося.

Праведзенымі першапачатковымі следчымі дзеяннямі ўстаноўлена, што ў момант ДТЗ у салоне аўтамабіля знаходзілася шэсць чалавек, і на гэтым участку кіроўцам была перавышаная дапушчальная хуткасць руху пры дазволенай – не больш за 40 км/г.

24-гадовы кіроўца прызнаны падазраваным па крымінальнай справе, узбуджанай па частцы другой артыкула 317 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь: парушэнне правілаў дарожнага руху, што пацягнула па неасцярожнасці смерць чалавека.

У рамках расследавання працягваецца комплекс следчых і працэсуальных дзеянняў. Упраўленнем Дзяржаўнага камітэта судовых экспертыз праводзіцца шэраг даследаванняў, у тым ліку па тэхнічным стане транспартнага сродку, хуткасці яго руху, прычыне смерці загінулага. Папярэдне кіроўца быў цвярозы.

Следчыя просяць грамадзян, якія сталі відавочцамі дадзенага здарэння, звярнуцца ў Маладзечанскі РАСК па адрасе: *вул. Прытыцкага, 23,* або паведаміць інфармацыю па тэлефонах: **8 (0176) 77-04-69, 8 (017) 289-37-36.**

**Таццяна БЕЛАНОГ,**
**афіцыйны прадстаўнік УСК па Мінскай вобласці.**

## П'яны валожынец выехаў на "Фордзе" на паласу сустрэчнага руху

ВАЛОЖЫН

Здарылася гэта пасля 16 гадзін 19 красавіка на 71-м кіламетры аўтадарогі Мінск-Гродна ў Валожынскім раёне.

39-гадовы валожынец ехаў на аўтамабілі "Форд-Мандэа" ў накірунку Мінска. На закругленні дарогі направа не справіўся з кіраваннем і выехаў на паласу сустрэчнага руху. Там "Форд" сутыкнуўся з аўтамабілем "Рэно-Лагуна".

У выніку пасажыр "Форда", 31-гадовы жыхар вёскі Стайкі Валожынскага раёна, атрымаў траўмы. Яго не шпіталізавалі. Кіроўцы і пасажыры аўтамабіляў былі прышпіленыя рамянямі бяспекі.

Кіроўца "Форда-Мандэа" быў у стане алкагольнага ап'янення. Пасведчання кіроўцы ён не мае: пазбавілі яго яшчэ ў 2006 годзе, паведамляе ДАІ Мінскай вобласці.

**Аддзел інфармацыі.**

## Сп'яну валожынец не пазнаў таварыша і пабіў яго. Той у адказ скраў тэлефон

ВАЛОЖЫН

Калі адзін з жыхароў вёскі, што непадалёк ад Івянца, узбіўся на грошы, вырашыў разам з таварышам пайсці ў гарадскі пасёлак, каб купіць спіртное.

Купілі чатыры бутэлькі віна, якія на працягу дня і пілі ў скверы каля магазіна. Пасля гэтага вырашылі вяртацца ў вёску.

Па дарозе адзін з іх не ўтрымаўся на нагах і ўпаў. Сябар стаў падымаць. Не разабраўшыся ў сітуацыі, мужчына, які ляжаў на зямлі, ударыў таварыша. Той адказаў тым жа, а яшчэ ў адплату скраў тэлефон. Пасля гэтага пакінуў сабутэльніка ляжаць на зямлі, а сам рушыў дадому, дзе лёг спаць.

Гэту сітуацыю праз акно бачыў жыхар Івянца, які і выклікаў міліцыю. Яна ў доме мужчыны і знайшла скрадзены тэлефон.

Здарэнне было ў сакавіку, цяпер справа перададзеная ў суд. Мужчыну будуць судзіць за рабаванне. Яму пагражае да шасці гадоў абмежавання волі.

Пра здарэнне расказаў старшы следчы валожынскага Следчага камітэта **Сяргей Лапцік.**

## Валожынец, пазбаўлены правоў, купіў у Гродне машыну і вяртаўся на ёй дамоў

ВАЛОЖЫН

Валожынца неаднаразова судзілі за кіраванне машынай у нецвярозым стане, пазбавілі права кіраваць транспартам на пяць гадоў.

Аднак гэта не перашкодзіла яму паехаць у Гродзенскую вобласць, каб набыць машыну, на якой ён і вяртаўся дадому. На Валожыншчыне яго затрымалі супрацоўнікі ДАІ. Цяпер мужчыну будуць судзіць па артыкуле 417 Крымінальнага кодэкса за невыкананне прысуду суда. Яму пагражае штраф альбо арышт да шасці месяцаў.

Пра здарэнне распавёў старшы следчы валожынскага Следчага камітэта Сяргей Лапцік.

## Мужчыну асудзілі за палавыя адносіны з асобай, якой няма 16 гадоў

ВАЛОЖЫН

30-гадовага валожынца летась у лістападзе асудзілі па артыкуле "палавыя адносіны альбо іншыя дзеянні сэксуальнага характару з асобай, якой няма 16 гадоў".

Ён атрымаў два гады дамашняй хіміі.

– Паводле прыгавору суда, мужчына павінны быў выконваць шэраг правілаў, – тлумачыць старшы следчы валожынскага Следчага камітэта Сяргей Лапцік. – Знаходзіцца дома ад сямі вечара і да шасці раніцы, не піць спіртныя напоі. У любы час яго маглі праверыць супрацоўнікі міліцыі.

Два разы ён папаўся супрацоўнікам міліцыі, калі не начаваў дома, таксама два разы быў у нецвярозым стане.

Цяпер мужчына чакае прыгавору суда. Яму пагражае да трох гадоў абмежавання волі.

**Галіна СУДНІКОВІЧ.**

“Рэгіянальная газета” пераехала




новы адрас

**Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518**

(ГЦ “Тройка”, 5-ы паверх)

Нашы новыя тэлефоны

Аддзел інфармацыі: (80176) **53-78-06**
Аддзел рэкламы/факс: **53-78-04**
Галоўны рэдактар: **53-78-05**

Нумары мабільных тэлефонаў:
(8029) **676-84-20**, (8029) **573-28-47**

**Як да нас прыйсці**
✓ Уваход справа ад магазіна “Суседзі”.
✓ Падымайцеся на ліфце на пяты паверх
✓ Заходзьце ў офіс 518.





# И вы заговорите со всеми на одном языке!




Каждому из нас частенько приходится сталкиваться с трудностями перевода. Некоторые пользуются онлайн-переводчиком и получают плачевный результат. Есть среди нас и те, кто не один год откладывает необходимость выучить наконец-то иностранный язык.

Хорошая новость – и качественные переводы, и эффективное обучение вам гарантирует Молодечненский филиал унитарного предприятия “Минское отделение Белорусской торгово-промышленной палаты”. Жизнь слишком коротка, чтобы довольствоваться вторым сортом и позволять кормить себя “завтраками”.

### Качество отличное – цена приличная

Компания предлагает перевод научно-технической, экономической, юридической, коммерческой документации и литературы, информационно-рекламных и справочных материалов, личных и учредительных документов. Здесь могут перевести всё, что вам потребуется!

Переводы осуществляют с семи языков:
- английского,
- греческого,
- испанского,
- итальянского,
- немецкого,
- польского,
- французского и наоборот.

Кроме того, что можете быть абсолютно уверены в точности и корректности перевода, Молодечненский филиал унитарного предприятия “Минское отделение БелТПП” порадует вас демократичными ценами.

Компания имеет право переводить юридические и другие документы с последующим нотариальным заверением.

### Быстро, точно и уверенно

Мы экономим ваше время, и если вам некогда отдать необходимые документы для перевода, достаточно просто отправить письменную заявку на электронную почту или факс. Специалисты свяжутся с вами для согласования сроков выполнения перевода, обговорят условия и стоимость. Вы платите только за выполненную работу.

Планируете мероприятие с иностранными гостями? Компания предлагает услуги для последовательного устного перевода во время деловых переговоров, конференций, семинаров, лекций, выставок и других важных событий. При правильном переводе участники достигнут главного – понимания.

Вы можете быть уверены в качестве, ведь репутация компании проверена временем. Торгово-промышленная палата более 60 лет работает в области переводов. А отдел переводов унитарного предприятия “Минское отделение БелТПП” входит в топ-10 переводческих служб Беларуси. В 2011 году компания получила сертификат системы менеджмента качества услуг по устному и письменному переводу.

### Поверьте – вы заговорите на английском

Сегодня без знания иностранного языка сложно обойтись. Поэтому людей разного возраста, социального статуса объединяет большое желание получить необходимые знания, а дальновидные руководители мотивируют на это своих работников.

Молодечненский филиал унитарного предприятия “Минское отделение БелТПП” приглашает специалистов предприятий, организаций и фирм, занимающихся внешнеэкономической, коммерческой, юридической деятельностью, менеджментом и маркетингом; и всех желающих изучить английский язык, или повысить уровень языковой подготовки в области коммерческой, деловой лексики и научно-технического перевода.

Среди выпускников Молодечненского филиала унитарного предприятия “Минское отделение БелТПП” работники таких ведущих компаний, как “Молодечномебель”, СП “ММЦ” ООО и другие.

Курсы английского языка проходят дважды в неделю в вечернее время на протяжении года.

По окончанию курса слушатели, успешно закончившие занятия, получают свидетельство, признаваемое за рубежом.

Вы можете выбрать учёбу в группах до восьми человек, также индивидуально. Возможно проведение занятий непосредственно в организации заказчика.

Занятия проводят высококвалифицированные преподаватели. Главный принцип – занятия должны не только приносить пользу и давать знания, но также быть интересными для студентов. Только так можно добиться желаемого результата и мотивировать человека, чтобы и после курсов он совершенствовал свои знания. Именно поэтому педагоги используют различные виды обучения: видео и аудиоматериалы, современные учебники и пособия.

Не стоит бояться, стоит пробовать. И поверьте – вы заговорите на английском. А это уникальная возможность быть понятым во всех точках мира. Хорошее знание английского – залог успеха.

### Экспертиза и сертификация

Молодечненский филиал Унитарного предприятия “Минское отделение Белорусской торгово-промышленной палаты” оказывает широкий спектр услуг для индивидуальных предпринимателей и юридических лиц.

Компания осуществляет экспертизу количества и качества оборудования и сырья, экспертизу качества возвращенных товаров по заявкам торгующих организаций и частных лиц, а также сертификацию продукции собственного производства и происхождения товаров.

Услуги оказывают квалифицированные специалисты.

Клиентам гарантирован:
- аналитический индивидуальный подход к каждому заказу,
- соблюдение строгой конфиденциальности,
- достоверность в применении предъявленной информации.

Осуществляется выдача сертификатов продукции (работ и услуг) собственного производства в целях реализации льгот, предусмотренных для производителей налоговым, валютным и таможенным законодательством, а также участия в тендерах и других конкурсах, в которых необходимо подтверждение статуса продукции (работ и услуг) собственного производства.

Обратившись в компанию один раз, вы станете постоянным клиентом навсегда!

Более подробно о услугах Молодечненского филиала Унитарного предприятия “Минское отделение БелТПП” можно познакомиться на сайте **www.tppm.by.**


МОЛОДЕЧНЕНСКИЙ ФИЛИАЛ УНИТАРНОГО ПРЕДПРИЯТИЯ «МИНСКОЕ ОТДЕЛЕНИЕ БЕЛОРУССКОЙ ТОРГОВО-ПРОМЫШЛЕННОЙ ПАЛАТЫ»

**ИЗУЧАЙТЕ ИНОСТРАННЫЕ ЯЗЫКИ!!!**

**АНГЛИЙСКИЙ ЯЗЫК**

**Для Вас:**
✓ удобное месторасположение (в центре города)
✓ высококвалифицированные преподаватели
✓ группы не более 8 человек
✓ занятия 2 раза в неделю в вечернее время (по 2 академ.часа)

**ЦЕНЫ, КОТОРЫЕ ВАС УДИВЯТ!**

г. Молодечно, ул. Буховщина 60/1, пом. 54, 1 этаж
Тел.: 8 (0176) 70 31 15, 70 31 16, 8 (029) 635 35 74
e-mail: tppm-mo@tppm.by, http://www.tppm.by

УНП 100144204

## Шматгалосы сямейны хор Церабуноў

*Заканчэнне. Пачатак у №16.*

МАЛАДЗЕЧНА

**Юрась Церабун** працягвае ўспаміны пра славутых сваіх землякоў.

**Віктар Уладзіміравіч Роўда** – харавы дырыжор, прафесар, народны артыст СССР, нарадзіўся ў Смаргоні ў 1921 годзе ў сям'і святара. Бацька, айцец Уладзімір, думаў, што сын пойдзе яго шляхам і нават вучыўся ў Віленскай духоўнай семінарыі.

Вучыцца было цікава: музыка, хор, замежныя мовы. Але вучобу пакінуў. Закончыў Віленскі медыцынскі інстытут, але і доктарам не працаваў.

Ён паступае ў Маскоўскую кансерваторыю на харавое аддзяленне ў клас вядомага прафесара **Аляксандра Васільевіча Свешнікава.**

Пасля вучобы вяртаецца ў Мінск, працуе ў кансерваторыі і кіраўніком хору Беларускага радыё.

У народзе гэты калектыў называюць Харам Роўды за незвычайна прыгожы гук і манеру нейкага своеасаблівага, святога гучання.

На месцы іх хаты ў Смаргоні пабудаваная прыгожая царква, куды Віктар Уладзіміравіч уклаў свае ахвяраванні.

Яго калектыў зрабіў запіс нашага Дзяржаўнага гімна Беларусі, які велічна гучыць ва ўсім свеце. У гэтым гучанні часціца светлай душы і таленту нашага земляка і вялікага Маэстра.

Віктар Роўда ганаровы грамадзянін Смаргоні, яго імем названая вуліца.

Уладзімір Церабун па сваёй уласнай ініцыятыве выканаў скульптурны партрэт Віктара Уладзіміравіча Роўды і адліў яго ў бронзе.

Бронза – вечны матэрыял, і гэта азначае, што памяць аб ім будзе вечнай. Твор захоўваецца ў Смаргонскім гісторыка-краязнаўчым музеі.

Яшчэ адзін талент нарадзіўся на Смаргоншчыне. Наша збавіцельніца **Кацярына Шульжыцкая**, якая прытуліла нас у вёсцы Несцяняты, тады не ведала, што ў 1946 годзе нарадзіўся беларускі скульптар **Уладзімір Васільевіч Церабун.** У мінулым годзе Уладзімір пачаў яе пошук.

Да пошуку далучыўся яго лепшы сябра **Анатоль Анатольевіч Янец**. Ён быў старшынёй калгаса ў Кушлянах і добра ведаў усе гэтыя вёскі.

Інтэлігент, адукаваны чалавек высокай культуры, шмат зрабіў на захаванні нашай спадчыны.

Калі быў старшынёй калгаса, занядбаную хату **Францішка Багушэвіча** ператварыў у мемарыяльны музей паэта.

Сам літовец. Нарадзіўся ў Друскеніках, на радзіме майго любімага мастака і кампазітара **Мікалоюса Канстанцінаса Чурлёніса.**

Дзякуй вам, шаноўны Анатоль Анатольевіч, за любоў і павагу да нашай Беларусі і яе людзей, асабліва людзей вёскі, дзе вас і сёння называюць родненькі.

У сваіх пошуках ім удалося даведацца, што Кацярына Шульжыцкая паехала да дзяцей у Калінінград.

Там яе напаткала вялікае гора – яна пахавала сына і дачку. Вярнулася ў Беларусь, жыла і працавала прыслугай пры касцёле ў Вішневе.

У гэтым годзе пошукі працягнем. Мы павінны пакланіцца ў ногі гэтай святой беларускай жанчыне.

У заключэнне некалькі слоў пра майго брата скульптара Уладзіміра Васільевіча Церабуна.

Ён – лаўрэат прэміі Ленінскага Камсамола Беларусі, заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь.

Закончыў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут, клас **Андрэя Ануфрыевіча Бембеля**. Выкладчыкамі былі скульптары **Генадзь Ільіч Мурамцаў і Анатоль Аляксандравіч Анікейчык.**

Дыпломная работа – цэнтральная фігура жанчыны-маці для мемарыяльнага комплексу "Дальва – сястра Хатыні" у Лагойскім раёне Мінскай вобласці.

Атрымаў дыплом з адзнакай і вучобу яму скарацілі на цэлы год.

Твор выконваўся і ўстанаўліваўся на месцы, што было ўпершыню ў гісторыі інстытута і кафедры скульптуры.

Некалькі гадоў таму Уладзімір прапанаваў мне паехаць з ім па Гродзеншчыне і паглядзець яго творы. Тое, што я ўбачыў, мяне проста ўразіла. Гэта творы вялікага грамадскага гучання і дасканаласці выканання ў галіне манументальнай скульптуры.

Мы выраслі ў звычайнай беларускай сям'і, дзе галоўным лічыліся духоўнасць і высокая культура. Сваіх бацькоў мы называлі на "вы", чым і адрозніваліся ад іншых.

Шматгалосы сямейны хор па святах забыць немагчыма. У нас былі музычныя інструменты, алоўкі і фарбы.

На месцы пахавання бацькоў, брата Кастуся і яго жонкі Фаіны Уладзімір навёў выключны парадак.

З васьмі чалавек нашай сям'і засталіся толькі мы з братам Уладзімірам.

Жадаю табе творчых поспехаў, здароўя і шчасця, дарагі скульптар, брат і цудоўны мой сябра.

**Юрась ЦЕРАБУН, былы выкладчык цымбал, мастак, жыхар Маладзечна.**

МІЖНАРОДНАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА: БЕЛАРУСЬ - ГЕРМАНІЯ

# У Маладзечне працуе перасоўная выстава, прысвечаная Трасцянцу

МАЛАДЗЕЧНА

**20 красавіка ў другім корпусе Маладзечанскага дзяржаўнага політэхнічнага каледжа адкрылася перасоўная выстава "Лагер смерці Трасцянец. Гісторыя і памяць".**



Фота dw.com.

У Трасцянцы загінулі 206 тысяч 500 чалавек, з іх вядома толькі 40 тысяч імёнаў.

Першапачаткова выставу планавалі паказаць у Мінску ў музеі Вялікай Айчыннай вайны і ва ўсіх абласных гарадах. Маладзечна праявіла ініцыятыву, каб выстава прайшла ў горадзе. Дзякуючы арганізатарам – Дортмундскаму міжнароднаму адукацыйнаму цэнтру пры фінансавай падтрымцы Міністэрства замежных спраў ФРГ – гэта стала магчыма.

– Я вельмі ўдзячная, што Маладзечна і маладзечанскі каледж праявілі ініцыятыву і захацелі паказаць выставу, – адзначае часовы паверны ў справах Федэратыўнай Рэспублікі Германія ў Рэспубліцы Беларусь **Аня Лютэр**. – Гэта сведчыць аб сапраўднай і сур'ёзнай грамадскай дзейнасці, таму што тэма выставы вельмі цяжкая. Усё ж вы вырашылі паказаць яе, бо лічыце тэму важнай, і я падзяляю гэта меркаванне.

### Выставу рыхтавалі спецыялісты з Германіі і Беларусі

Перасоўная выстава "Лагер смерці Трасцянец. Гісторыя і памяць" – унікальны беларуска-германскі праект, які рыхтаваў калектыў гісторыкаў, работнікаў музеяў з Германіі і Беларусі. Спецыялісты паказваюць розныя культуры памяці – пераможцаў і пераможаных.

У беларускіх і нямецкіх гісторыкаў розныя падыходы нават наконт назвы лагера. Беларусы прынялі для сябе тэрміналогію лагер смерці Трасцянец. Нямецкія гісторыкі называюць Трасцянец месцам знішчэння, бо гэта быў нетрадыцыйны лагер смерці, такі як Аўшвіц альбо Трыблінка. Аднак спецыялістам удалося паказаць узгодненае бачанне складанага перыяду агульнай гісторыі.

На адкрыцці выставы зазначылі, што быў шэраг аналагічных спробаў стварыць у Еўропе ўзгодненыя раздзелы падручнікаў па ваеннай гісторыі. Іх распрацоўвалі краіны, якія супрацьстаялі падчас вайны, аднак большасць скончылася няўдачай.

– Выстава прысвечаная лагеру смерці Трасцянец, які доўгія гады, нягледзячы на маштабнасць, быў зусім невядомы ў Еўропе як грамадскасці, так і гісторыкам, – гаворыць дырэктар мінскага міжнароднага адукацыйнага цэнтра імя Ёханаса Раў **Віктар Балакіраў**. – Хаця гэта месца самага масавага знішчэння заходне-еўрапейскіх яўрэяў за межамі трэцяга рэйха. У агульнай складанасці ў Трасцянцы знішчылі каля 35 тысяч заходне-еўрапейскіх яўрэяў з Германіі, Аўстрыі і Чэхіі. Пры гэтым толькі з Аўстрыі іх было каля 13 тысяч. Такім чынам, выстава прабівае нейкім чынам своеасаблівую інфармацыйную брахню ў інфармацыйнай блакадзе, якая была ў Еўропе, у адносінах да канцлагера, чацвертага па маштабах падчас Другой сусветнай вайны.

### Загінула больш за 200 тысяч, вядомыя імёны толькі 40 тысяч

Важна, што выстава перасоўная. Летась у лістападзе яна адкрылася ў Гамбургу. Гэта сімвалічна, бо ў лістападзе 1941 года першы эшалон павёз заходне-еўрапейскіх яўрэяў з Гамбурга ў Мінск.

Выстава ўжо паказаная ў Берліне, у Карлсхорсце. Паступіла заяўка з Вены аб правядзенні выставы і ў Аўстрыі. Яна плануецца ў Чэхіі і Празе.

– Выстава, якая пройдзе ў Германіі, Аўстрыі, Чэхіі, будзе садзейнічаць устанаўленню кантактаў паміж трасцянецкім мемарыялам і заходне-еўрапейскімі мемарыяламі, якія ёсць і ў Чэхіі, і ў Германіі. Гэта дапаможа стаць Трасцянцу састаўным элементам культуры памяці, – разважае Віктар Балакіраў. – Цеснае супрацоўніцтва дапаможа выпрацаваць агульную канцэпцыю, знайсці дарогу адзін да аднаго.

Будзе працягвацца праца па ўстанаўленні імёнаў загінулых у Трасцянцы.

**По падліках навукоўцаў, усяго ў Трасцянцы загінулі 206 тысяч 500 чалавек, з іх вядома толькі каля 40 тысяч імёнаў.**

– Ад 1942 да 1944 года у Трасцянцы знішчалі яўрэяў з Беларусі, Аўстрыі, Германіі і Чэхіі, тут былі жорстка забітыя савецкія ваеннапалонныя, мірнае насельніцтва і партызаны, – адначаляе ваенных старонкі Аня Лютэр. – Тут не хавалі, а проста закопвалі ў зямлю, каб схаваць сляды жорсткіх злачынстваў. Для нашчадкаў імёны многіх забітых засталіся невядомымі, але кожны з іх меў імя, меў сваю асабістую і унікальную гісторыю. Некаторыя лёсы загінулых у Малым Трасцянцы ўдалося аднавіць, яны паказаны на выставе. Яна вяртае іх з небыцця, вяртае страчанае імя. Трэба весці далейшую работу па аднаўленні імёнаў. Асабістыя лёсы, магчыма, лепш за лічбы дазваляюць зразумець, якая чалавечная трагедыя тут адбылася.

### 600 тысяч еўра на будаўніцтва мемарыяла ў Трасцянцы

Летась у чэрвені здадзены першы этап будаўніцтва трасцянецкага мемарыяла. Аднак прадугледжаны і другі этап будаўніцтва ва ўрочышчы Благаўшчына, дзе былі знішчаныя пераважна заходне-еўрапейскія яўрэі.

– Міністэрства замежных спраў ФРГ і народны саюз па доглядзе за ваеннымі пахаваннямі Германіі прынялі рашэнне выдаткаваць 600 тысяч еўра на рэалізацыю другога этапу будаўніцтва гэтага мемарыяла, – расказвае дырэктар мінскага міжнароднага адукацыйнага цэнтра імя Ёханаса Раў. – І цэнтральным элементам другога этапу з'яўляецца рэалізацыя праекта, распрацаванага **Леанідам Левіным**. Гэты скульптар блізкі для Маладзечна – ён стварыў комплекс Шталаг-342.

Арганізатары спадзяюцца, што выстава будзе цікавая для моладзі, дапаможа бліжэй пазнаёміцца з гісторыяй, усвядоміць і не паўтараць памылак мінулага.

Выставу можна наведаць да 14 мая.

**Галіна СУДНІКОВІЧ.**

Пасольства ФРГ у Беларусі. УНП 101166185.




Куплю
Прадам
Зраблю

## Дзе падаць аб'яву

| | |
|---|---|
| **МАЛАДЗЕЧНА** | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. (80176) **537804, 8 (029) 6768420.** |
| **АСТРАВЕЦ** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. (801591) **21140.** |
| **АШМЯНЫ** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. (801593) **22211.** |
| **ВАЛОЖЫН** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. (801772) **55542, 55237.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. Партызанская, 44, магазін "Парус". Тэл. (801771) **20083, 20103.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. (801771) **55233, 55539.** |
| **СМАРГОНЬ** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. (801592) **33077.** |
| **МЯДЗЕЛ** | вул. 17 верасня, 2. Тэл. (801797) **55266, 55765.** |

* *Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў Інтэрнэце на сайце* **Rh.by**



## ВІНШАВАНКА

**Веры Аляксееўне СКУРАТОВІЧ з в. Маніхі Вілейскага раёна**

Дарагая мамачка!
Віншуем цябе з 85-годдзем!

*Ад шчырага сэрца,*
*У дзень юбілею,*
*Жадаем табе радасці,*
*светлай надзеі,*
*Шчасця вялікага ў будні*
*і ў святы,*
*Хай добрыя людзі прыходзяць*
*у хату.*
*Жадаем здароўя, удачы,*
*цяпла,*
*Каб беды-нягоды згарэлі датла,*
*Каб жыць-не тужыць да ста год*
*давялося,*
*Хай збудзецца ўсё, што яшчэ*
*не збылося.*

Мы дзякуем табе за дабрыню тваю, за чалавечнасць, за тое, што нас шкадуеш ты заўжды. Мы вельмі хочам, каб яшчэ доўга твая мудрасць, твае парады дапамагалі нам у жыцці. Мы ведаем, калі ты з намі, усё будзе добра, што б ні здарылася. Заставайся такой жыццярадаснай, якой мы цябе ведаем.

**Твае дзеці, унукі, праўнукі.**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

- Атос-Хундай, 1998 г.в., аб'ём 1 л, добры стан, нядорага. Т. МТС (8-033) 3516838.*
- Мазда 626, 1989 г.в., добры стан. Т. (8-029) 6467681.
- Опель-Аскона па запчастках. Т. (8-029) 8939366.
- Опель-Вектра В, 1997 г.в., 2,0 ТД, белы. Т. (8-029) 5678090.*
- Опель Меріва, 2008 г.в, аб'ём 1,3 дызель, цёмна сінешэры. Т. МТС (8-029) 8945666, Вэлком (8-029) 9841812.
- Сузукі-Свіфт, у добрым стане. Т. МТС (8-033) 3786807.
- Пежо SV, 2003 г.в, 2,0 HДІ. Т. Вэлком (8-029) 1950373, МТС (8-029) 7657828, Вэлком (8-029) 1056165.
- Форд-Сіера, 1992 г.в, дызель, па запчастках. Т. (8-029) 7736525.*
- **АЎТАШКЛО. ПРОДАЖ, УСТАНОЎКА. ЯКАСНА, ПРАФЕСІЙНА. ГАРАНТЫЯ.** Наяўны, безнаяўны разлік. ЧСУП "АртАлексСэрвіс" УНП 690639270. Т. (8-029) 7766637, (8-044) 7766637. *
- **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

| Тэлефонныя коды | гарадоў рэгіёну: |
|---|---|
| **Астравец** | -01591, |
| **Ашмяны** | -01593, |
| **Валожын** | -01772, |
| **Вілейка** | -01771, |
| **Маладзечна** | -0176, |
| **Мядзел** | -01797, |
| **Смаргонь** | -01592. |

### КУПЛЮ

- **АЎТАМАБІЛЬ** у любым стане, Т. (8-029) 1261119.*
- **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 6170681.***
- Аўтамабіль у любым стане, можна мікрааўтобус. Т. (8-029) 8853281.*
- Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6412706.*
- Аўто ў любым стане. Дорага. Т. МТС (8-029) 7076969.*
- Аўто, можна з праблемамі. Прыеду сам. Т. МТС (8-029) 7773083.*
- Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 7918210.*

### ПАСЛУГІ

- **МІНІ-ЭКСКАВАТАРА**, усе віды земляных работ. ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*
- Міні-экскаватар, міні-пагрузчык, траншэекапальнік, вібрапліта 500 кг, самазвал 20 т. ІП Карповіч В.У. УНП 692013268. Т. (8-029) 9666645.*
- Паслугі міні-экскаватара. Усе віды земляных работ. ІП Кроер А.Л. УНП 691397772. Т. (8-029) 6926052.*
- Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

- 1-пакаёвая кватэра ў Турэц-Баярах, 14 км ад Маладзечна, плошча 36/16,2/8,2 кв.м, шклопакеты, жалезныя дзверы, добры рамонт, побач электрычка. Магчымы абмен на аўто.Т. МТС (8-029) 8969901.*
- 2-павярховы цагляны дом у Вілейцы. Т. (8-029) 9041668, 56170.
- 2-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Б.Хмяльніцкага, 4 паверх 5-павярховага дома, альбо абмяняю на 3-пакаёвую з маёй даплатай. Т. (8-029) 5078291.
- 2-пакаёвую кватэру ў Вілейцы, еўрарамонт, магчымы абмен на Мінск з даплатай. Т. (8-029) 2749893.*
- **3-ПАКАЁВАЯ КВАТЭРА Ў А.Г. ЗАЛЕССЕ. ТЭРМІНОВА! НЯДОРАГА. Т. (8-029) 6125469.***
- 3-пакаёвая кватэра, ДОСы г. Смаргонь. Танна. Т. (8-01592) 27897, (8-029) 7881672.
- Будынак былой пачатковай школы разам з зямлёй 1,8 га у в. Малінавая Смаргонскага раёна. Цана дагаворная. Т. (8-029) 5665809.*
- Гараж у ГБК №6 у Вілейцы. Т. (8-029) 2716012.*
- Гараж у кааператыве "Маладзёжны" № 29 г. Маладзечна. Т. МТС (8-033) 3516838.*
- Дача ў в. Клыні, 3 км ад Вілейкі, 10 000 бел. руб. Т. (8-029) 2375721.*
- Дача-домік, 2 паверхі, лазня, у в. Прынта Вілейскага раёна, побач лес, грыбы, ягады, р. Нарачанка. Т. (8-029) 2521686.*

**Вечерний Бобруйск**
Вашы аб'явы па продажу ТРАНСПАРТУ прачытаюць і ў газеце "Вечерний Бобруйск". Адна цана – дзве газеты!

- Дом драўляны, жылы, у цэнтры Маладзечна, 65 кв.м, з мэбляй, газ, водаправод, гараж. Т. (8-029) 6691789.*
- Дом 43/83 кв.м. у в. Каралеўцы Вілейскага раёна Мінскай вобласці, участак 20 сотак, хлеў, лазня, два калодзежы, агарод, альтанка. Побач лес, рэчка, аўтобусны прыпынак, магазін. Т. (8-029) 1166139.*
- Дом у в.Малевічы Вілейскага раёна, 53 км ад МКД, ільянскі накірунак, цана дагаворная. Т. (8-029) 2749893.*
- Дом жылы ў Вілейцы, 100 кв. м, з мэбляй, маёмасць, прыродны газ, ацяпленне, каналізацыя, вада, сад-агарод, цяпліца, альтанка, цана дагаворная. Т. (8-029) 6499848, (8-044) 7966466.*
- Дом у в. Каловічы (газ). Т. (8-029) 1825368, (8-029) 7584436.*
- Дом у в. Шастакі,13 км ад Смаргоні. Т. (8-029) 8724272.
- Дом у Вілейцы. Тэрмінова! (8-029) 2852295.*
- Дом, 6 км ад Маладзечна. Т. (8-029) 2754603, (8-0176) 502313.*
- Кватэра ў прыгарадзе Маладзечна (2 км). Ходзіць гарадскі аўтобус. Добры рамонт, усе выгоды, зона адпачынку. Т. (8-029) 2754603, (8-0176) 502313.*
- Нежылы будынак плошчай 300 кв.м. Т. (8-029) 6195512.*
- Памяшканне 130 кв.м у Маладзечне альбо здам у арэнду. Т. (8-033) 3549222.*

### ЗДАМ

- 2 ралеты ў Ашмянах на тэрыторыі рынку 10 кв.м па 60 руб. і 12 кв. м па 72 рублі. Т. (8-029) 6631595.*

## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

- Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны.Т. (8-025) 5144071 Васкабовіч А.А.*
- Музыкі на вяселле, юбілей. Шоу-праграма. Тамада. Вакал. Баян. Т. (8-033) 3523507, (8-029) 3242015. Кулаковіч Т.І.*

### ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

- АМ-Відэа. Відэаздымка і мантаж вясельных фільмаў, карпаратываў, мерапрыемстваў. Якасць HD. ІП Малько А.Г. УНП 691291314. Т. Вэлком (8-029) 8745891.*
- **ФАТОГРАФ. ВЯСЕЛЛІ. ПАМЯТНЫЯ ДНІ. СЯМЕЙНАЕ ФОТА. LOVE STORY. ПАРТРЭТЫ. ЛІЧБАВАЯ І СТУЖКАВАЯ ФАТАГРАФІЯ. Юркоў У.А. Т. (8-044) 5745873.***

**СТО** ООО "Авто-Мотор- Плюс" УНП 690552830
- Замена ГРМ, сцепления
- Восстановление суппортов
- Осмотр, ремонт ходовой
- Замена масла
- Развал-схождение
- Ремонт глушителя
- Шиномонтаж, аргон

(80176) **58-10-30,** (029) **876-51-17,** (029) **335-48-04,** (029) **64-61-463**
*Молодечно, ул. Т. Дудко, 2 (рядом с таможней). Работаем без выходных.*

### ПАСАЖЫРАПЕРАВОЗКІ

- Здам у арэнду аўтобус ПАЗ 25 + 15 месцаў. Т. (8-029) 6689034.

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

- Мерсэдэс-508, тэнт, да 3 тон + 5 пасажырскіх месцаў, па горадзе і РБ. Кватэрныя пераезды. Вываз смецця. Грузчыкі. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*
- **ГРУЗАПЕРАВОЗКІ** да 3 тон, горад, РБ, мэблевы фургон. ІП Радзівановіч А.А. УНП 691890548. Т. (8-029) 5064233.*
- Грузаперавозкі. Бус 1,5 тон. Т. (8-029) 1921299. ПУП "Дойлід-С" УНП 600077312.*
- Мерсэдэс - 412, 2,5 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Пераезды. Без выходных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

- Спілуем дрэвы любой складанасці. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*
- Агароджы з прафнасцілу, штыкетніка, бесера. Вароты адкатныя, якія расхінаюцца. Танна. ІП Мельнікаў П.Е. УНП 691518576. Т. (8-044) 5352329, (8-029) 7623561.*

Прадам **ДАЧУ** паблізу Вілейкі, Плікавічы. Участак 10 сотак. 4 км да вадасховішча.



Т. (8-029) **651 20 36**.

**СТО «АртАлексСервис»**
**для легковых авто и микроавтобусов а также ВАЗ, ГАЗ, Газель, УАЗ**

**ДИАГНОСТИКА И РЕМОНТ:**
- двигателей
- подвески
- рулевого управления
- тормозных систем
- сцепления
- механических КПП
- задних балок французских авто

**РЕМОНТ СУППОРТОВ**
**ШИНОМОНТАЖ**
**РАЗВАЛ-СХОЖДЕНИЕ**
**КОМПЬЮТЕРНАЯ ДИАГНОСТИКА**
- установка и продажа стекол
- замена ремней ГРМ
- замена и ремонт глушителей
- экспресс-замена масла и жидкостей
- снятие и проверка форсунок HDI, CDI

**Молодечно, Нагорная, 4Б** Тел. **(8-0176) 74-42-95, (8-029) 766-56-99, (8-044) 766-56-99.**
Наличный и безналичный расчёт
**АВТОЗАПЧАСТИ** в наличии и под заказ
ЧП «АртАлексСервис». УНП 690063270

**Весеннее предложение для автолюбителей!**
АКЦИЯ!
**Весь март и апрель в продаже АККУМУЛЯТОРЫ***
**55 Ач – 75,00 рублей! 60 Ач – 78,00 рублей!**
**Широкий выбор аккумуляторов разных производителей!**
Телефоны в Молодечно (0176) **58-12-48,** (029) **63-63-166,** (033) **323-02-17.**
**А также всегда покупаем и принимаем в зачёт старые аккумуляторы!**



ООО "Батрикс"УНП 691893243
*Количество акционного товара ограничено!

- Аграсядзіба, **ЛАЗНЯ.** vslobode.relax.by ІП Камінскі А.Н. УНП 192737618. Т. (8-029) 6130457.*
- **АДДЗЕЛКА ДАМОЎ САЙДЫН-ГАМ.** ІП Бяліцкі А.В. УНП 690688577. Т. (8-029) 7085907, (8-029) 1232842.*
- Бурэнне свідравін (скважын) на ваду. ІП Суббот П.Ш. УНП 692010733. Т.(8-029) 7737451, (8-029) 1285233.*
- Бурэнне свідравін (скважын) на ваду. Хутка. Нядорага. Акцыі. Скідкі. ІП Янцэвіч А.Г. УНП 590945450 Т. МТС (8-029) 7860317, Вэлком (8-029) 1287878.*
- Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*
- Выканаю ўкладку пліткі і абліцоўку сцен. ИП Леган А.С. УНП 691888682. Т. (8-029) 7709929.*
- Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*
- **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*
- Гравіроўка партрэтаў. Марчанка В.У. УНП КА 9946513. Т. (8-033) 3518017.*
- Добраўпарадкаванне пахаванняў, устаноўка помнікаў. ІП Нільва А.С. УНП 691880467. Т. (8-029) 3469417.*
- Кладка, дах, фундамент, аддзелка. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-0176) 734961, (8-029) 5024571.*
- Мантаж, дэмантаж даху, крохвенная сістэма. Аддзелка дамоў, франтонаў сайдынгам. Кладка блокаў. Сцяжка падлогі, ламінат. Устаноўка агароджаў. Наяўны і безнаяўны разлік. ІП Бажко А.В. УНП 691888639. Т. (8-029) 6943243, (8-033) 3013300.*
- Мантаж-дэмантаж дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.У. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*
- Рамонт і перацяжка мяккай мэблі любой складанасці. ІП Буслаўскі А.В. УНП 191241089. Т. Вэлком (8-044) 7737861, МТС (8-029) 7618836.*
- Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне па вул. Б. Хмяльніцкага, 36. Наяўны і безнаяўны разлік. http://mircomputerov.by ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223, (8-0176) 551702.*
- Рамонт металічных дзвярэй. Змена знешняга віду. Рамонт, замена замкоў і фурнітуры. Уцяпленне. ІП Новікаў А.А. УНП 691899716 Т. (8-029) 6548129.*
- Рамонт пральных машын LG, INDESIT, ARISTON, ARDO, "АТЛАНТ", BOCSH, ZANUSSI, CANDY, ELEKTROLUX і інш. ПУП "Планета інтэлекту" УНП 191763743. Т. (8-029) 3039740, (8-033) 6228190. Уладзімір.*
- **РАМОНТ ТЭЛЕВІЗАРАЎ ДОМА.** Гарантыя. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Лайф (8-025) 9262376, (8-0176) 546298.*
- Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд на дом. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*
- Рамонт халадзільнікаў, маразільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. у Маладзечне 733177, (8-029) 3395974.*
- Тратуарная плітка, борт і іншае. Укладка. Дастаўка. ІП Юрэвіч У.У. УНП 691505215. Т. (8-044) 7168663, (8-029) 8761382.*
- Электрык. Замена праводкі. ІП Ганецкі С.Р. УНП 691503598. Т. (8-029) 8543788, (8-029) 9780431.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

- **БЛОКІ Г/С (ВЫТВОРЧАСЦІ СМАРГОНІ, ЗАБУДОВЫ), ЦЭГЛА. ДАСТАЎКА.** Прыватнае прадпрыемства "Бізнес-Дэталь" УНП 691516305. Т. (8-029) 6664889.*
- Вагонка для лазні (вольха), для дома (сасна). Дошкі для падлогі. Брус усіх памераў, блок-хаўс, імітацыя бруса. Дастаўка. ІП Жукоўскі З.А. УНП 692011094. Т. (8-029) 5090095, (8-029) 3811905.*
- **ВАГОНКА, ДОШКА ПАДЛОГІ, ЭЛЕМЕНТЫ ЛЕСВІЦ** і інш. у Маладзечне, вул. Гарадоцкая, 102. ПП "Маркціна Білд" УНП 690627804. Т. (8-029) 1891477, (8-029) 2518322.*
- Сетка-рабіца ацынкаваная. Т. (8-033) 6111186.*
- Кафля для печы, глазураваная. Т. (8-029) 8939366.

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

- Прычэп ТОМ-650. Т. (8-029) 1536728.
- Культыватар, 6,5 конскіх сіл, 700 руб. Т. (8-033) 3593133.

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

**АНТЕННЫ СПУТНИКОВЫЕ**
Рассрочка без % (8-029) 762-78-98, (8-029) 332-67-79
ИП Емельянов А.В. УНП 600361413

- **АБАНЕНЦКІЯ КАРТЫ "ТРЫКАЛОР" – СКІДКІ! АКЦЫІ! АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ – ВЯЛІКІ ВЫБАР, НІЗКІЯ ЦЭНЫ.** ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*
- Абслугоўванне, наладжванне, рамонт спадарожнікавых антэн. ІП Буслаўскі А.М. УНП 691898750. Т. (8-033) 3494488.*
- **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ+, ЗАМЕНА СТАРЫХ ПРЫЁМНІКАЎ НА НОВЫЯ.** ГПУП "Ліцэраль". УНП 690621436. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

- Пчолы ў вуллях – пасека. Т. (8-029) 6309459.*
- Шчаняты ўсходне-еўрапейскай аўчаркі, чыстакроўныя. Т. (8-029) 6310734.*
- Каза з казлянятамі. Т. Вэлком 7125657.*

**Іншае**

- Кіёск гандлёвы. Т. (8-029) 6654868.*
- Зварачны апарат, 140 руб. Т. (8-033) 3593133.

### КУПЛЮ

**Сельгас-, будаўнічую тэхніку, абсталяванне**

- Матацыкл "Мінск", Матаблок МТЗ. Т. (8-029) 6299208.*
- Матаблок альбо міні-трактар, можна няспраўны. Т. МТС (8-033) 6041637.*

**Бытавую тэхніку**

- Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

- **НОЎТБУК,** ЖК-тэлевізар, ЖК-манітор, сістэмны блок, можна на запчасткі. Т. (8-029) 5613972.*

**Жывёлу**

- Кабана, свінню. Т. (8-033) 3401475.

**Антыкварыят**

- **АНТЫКВАРЫЯТ, ДОРАГА! Т. (8-029) 5744744.***
- **АНТЫКВАРЫЯТ, ФОТААПАРАТЫ, ГАДЗІННІКІ, ГРАМАФОНЫ, АБРАЗЫ, МЭБЛЮ, ФАРФОР І ІНШЫЯ СТАРАЖЫТНЫЯ РЭЧЫ.** Т. (8-0176) 542987, (8-029) 6564854.*

**Іншае**

- 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*
- Бульбу буйную. Т. (8-0290 7082011, (8-0290 5694135.*
- Запчасткі да маставых кранаў. Т. Вэлком (8-029) 6764425.*
- Кнігу "Памяць" розных рэгіёнаў. Т. (8-029) 5019550.*
- Кнігу "Памяць", розныя раёны. Т. (8-044) 7982430.*
- Рогі лася, аленя. Т. (8-029) 8552646.*

## ПРАЦА

### ШУКАЮ РАБОТУ

- Агароджы, падмуркі, сцяжкі, сайдынг, блокі, фасад. Т. (8-029) 2523998.*
- Вадзіцель з асабістым аўтамабілем (Транспарцёр Т-5), 8 месцаў, шукае працу, можна разовую. Т. (8-033) 6387708.*
- Дах, сайдынг, сафіт, фасад, тынкоўка. Т. (8-029) 5674334.*
- Шукаю падпрацоўку. Досвед: усе віды фасадных, будаўнічых, аддзелачных работ. Т. (8-0290 5526667, (8-029) 1881377.*

### ПАТРАБУЮЦЦА

- Дахавыя, бетонныя, зварачныя работы, кладка блокаў, цэглы, устаноўка агароджаў, сцяжкі, спілоўванне дрэў і іншае. Т. (8-044) 7556706, (8-029) 8521268.

---

**ИЗДЕЛИЯ ИЗ МЕТАЛЛА:**
✓ Навесы ✓ Мангалы
✓ Заборы ✓ Скамейки
✓ Калитки ✓ Оградки
Велком (8-029) **384 41 92**
МТС (8-033) **374 41 30**
ИП Харчишин В.А. УНП 692014596

---

**Для вас профессиональный мастер по изготовлению и установке окон ПВХ**
**Окна ПВХ**
**из 3- и 5-камерного профиля**
**БАЛКОННЫЕ РАМЫ**
*EXPROF (Россия)*
*Salamander (Германия)*
900х1400 – от 170 руб.
900х1400 – от 210 руб.
1500х1500 – от 310 руб.
2100х1500 – от 410 руб.
и другие размеры
**Цены с установкой**
8-0176 **54-18-29,** 8-029-**657-33-68**
ИП Шульжицкий Ю.В. УНП 690106835

---

**Спутниковое и цифровое ТВ**
**Все виды услуг**
Тел. (8-029) **561 39 72**
ИП Новик С.С. УНП 691398368

---

КУПЛЮ
**коня, КРС и др.**
а также вынужденный убой.
Заберу личным транспортом.
Тел. (8-044) **777-44-48**
(8-029) **393-92-56**
ИП Жамойтин Д.В. УНП 590191739

---

ОАО «**Зенит-БелОМО**»
требуется:
**начальник отдела автоматизированных систем управления производством**
*Заработная плата от 700 руб.*
Тел. (8-01771) **3 29 74**
отдел кадров
УНП 600102155

---

**ОКНА ПВХ**
металлические, межкомнатные двери
ОКНОГРАД
**РАССРОЧКА до 12 месяцев СКИДКИ до 50%**
**Срок действия акции ограничен**
Тел. (8029) **110-63-91**, (8033) **351-68-39**
ООО "Окноград" УНП 690639306

---

**Двери Окна**
◆ Входные ◆ Межкомнатные
◆ Скидки ◆ Рассрочка
КОЗЫРЬКИ
**Замер**
**Доставка**
**Установка**
Велком **8(029) 359-29-82**
МТС **8(029) 559-29-82**
ИП Платонов И.Н. УНП 692013467

---

**Бурение скважин на воду**
Качество/Договор/Гарантия
Тел. (8-029) **133 65 74**
**844 65 74**
ИП Гуринович А.В. УНП 691501462

---

Предприятию по изготовлению металлоконструкций требуются:
☑ **РЕЗЧИК на пилах, ножовках и станках**
☑ **РЕЗЧИК на ножницах и прессах**
☑ **ГАЗОРЕЗЧИК**
☑ **СБОРЩИК металлических конструкций**
☑ **ЭЛЕКТРОСВАРЩИК на п/авт. и авт.**
☑ **МАЛЯР**
*возможно оформление по договору подряда.*
Тел. (8-044) **721 49 34**
с 8.00 до 17.00
понед. – пятница
ЧУП «Дойлид-С» УНП 600077312

---

**НАТЯЖНЫЕ ПОТОЛКИ** МАТОВЫЕ, САТИНОВЫЕ, ГЛЯНЦЕВЫЕ
С НАМИ БЕЗОПАСНО
**РАССРОЧКА ОТ 2 ДО 7 МЕСЯЦЕВ**
Монтаж люстры, декоративный плинтус ПВХ и карниз **В ПОДАРОК**
Спальня в 14 м² **ВСЕГО** за 190 руб.
*2-ой и 3-ий ПОТОЛОК В ПОДАРОК!*
(8029) 392 80 00 / (8033) 392 80 00 от **6 руб.** за м²
tvoipotolok.by

---

• **ТРУБЫ**
• **уголки**
• **швеллеры**
• **арматура**
• **листы**
• **сетка рабица**
ИЗГОТОВЛЕНИЕ МЕТАЛЛОКОНСТРУКЦИЙ.
РЕЗКА. Доставка
***Аренда автокрана***
*г. Молодечно, ул. Рабочая, 8а*
**(0176) 75-19-82**
**58-04-76 (факс)**
**(029) 196-90-23 (-43) (-53)**
www.metallkontrakt.by/
ООО «Молметаллконтракт» УНП 691398156

---

**Бурение скважин на воду**
*Низкие цены, рассрочка, подвод воды в дом*
Тел. (8029) **944-72-24,**
(8033) **691-17-59.**
ИП Матин А.Н. УНП 691410712

---

**ТРЕБУЮТСЯ**
**станочники**
многопильного, ленточного станков.
З/плата высокая
(8029) **126-61-71**
ФХ «Свентицкого» УНП 600538931

---

**БЕТОН**
**РАСТВОР**
**Щебень, гравий, песок**
**ПГС** (доставка)
**Услуги фронтального погрузчика**
(погрузка, планировка, котлованы)
Тел. **8-044-749-00-56,**
**8-029-749-00-65.**
probeton.by
ООО "Алисан-Групп" УНП 690551451

---

**Кровельные работы любой сложности и материала**
Тел. (8-029) **854 37 83**
(8-044) **796 26 22**
ИП Буймола А.Л. УНП 691884010

---

**Металлические ДВЕРИ**
■ **Производство РБ**
■ **Готовые и под заказ**
■ **Улица, квартира**
Рассрочка от 2 до 6 месяцев 0%
ИП Лясковский Д.О. УНП 691555400
**www.vasharamka.by**
**(8029) 558-46-59**
**(8029) 647-53-20**

---

**ПАМЯТНИКИ**
от 280 р. за комплект
**ВАЗЫ, ОГРАДЫ, БЛАГОУСТРОЙСТВО**
*Скидки, рассрочка*
*Отличное качество, гарантия*
Т. (8-029) **754 83 71**,
(8-029) **312 19 63**.
ИП Родевич С.К. УНП 691181702

---

**БЛАГОУСТРОЙСТВО МЕСТ ЗАХОРОНЕНИЙ**
Тел. (8-029) **861 03 36**
ИП Марченко С.Г. УНП 600485709

---

• **СПИЛИМ ДЕРЕВО ЛЮБОЙ СЛОЖНОСТИ**
• **КРАН.ВЫШКА.АЛЬПИНИСТЫ**
• **КОРЧЁВКА ПНЕЙ**
• **ИЗМЕЛЬЧЕНИЕ ВЕТОК,**
• **РАСПИЛОВКА НА ДРОВА**
8029-**666-19-45**
8029-**562-35-58**
**Степан**
ЧУП «Беларбо». УНП 290506127

---

**ТЕПЛИЦЫ и БЕСЕДКИ** ПОЛИКАРБОНАТ
***Акции! Подарки! Пенсионерам СКИДКИ!***
**ДОСТАВКА • МОНТАЖ • РАССРОЧКА БЕЗ %**
Тел. 8(033) **373 80 20** МТС, (8029) **324 80 20** Велком **agroinvest.by**
ООО "Светопрозрачная кровля" УНП 591001987

ОКНА ПВХ
ДВЕРИ
Балконные рамы
•Установка • Отделка откосов
•Гарантия 10 лет •Скидки
8-029 756-65-86
661-58-34
ИП Тавтын А.П. УНП 691518017

ОКНА ПВХ
ДВЕРИ
- балконные рамы
- отделка откосов
- москитные сетки
НИЗКИЕ ЦЕНЫ!
ОТЛИЧНОЕ КАЧЕСТВО!
ГАРАНТИЯ 2 ГОДА!
Vel. (8-029) 384-41-92
MTS (8-033) 374-41-30
ИП Бураковский УНП 691518946

Окна ПВХ
Такие какими они должны быть!
•Двери ПВХ
•Балконные рамы
•Жалюзи
•Широкий выбор профилей, фурнитуры, стекла и комплектующих!
8029-874-80-80 МТС
8029-278-19-75 МТС
8029-957-97-99 Velcom
8025-938-99-22 Life
Любая форма оплаты.
РАССРОЧКА!
ИП Ширко Е.В. УНП 690549979

ОКНА
РАМЫ
ДВЕРИ
ПВХ
ДЁШЕВО!
акции!
(0176)501-503
(033) 647-16-92 мтс
(044) 469-44-43 velcom
Без выходных!
ООО «БелМэйджерСтрой» УНП 691517845

Roto SALAMANDER REHAU KBE
ОКНА ПВХ
Акция! Рассрочка 12
скидка 15%
Балконные рамы
отделка откосов
балконов
12 ЛЕТ ГАРАНТИИ!
Звоните сейчас!
8-(029)-649-20-40
8-(029)-569-20-40
ИП Бавтович С.И. УНП 192038935 www.okna-top.by

ДВЕРИ
ВХОДНЫЕ 200 р.
стандартные, на заказ
МЕЖКОМНАТНЫЕ 150 р.
мдф, экошпон, массив, шпон.
ДВЕРИ-КУПЕ, АРКИ
ОКНА пвх
МЕБЕЛЬ
готовая и на заказ
КУХНИ
матовые, глянец, стекло от 400 р.
ГОРКИ 250 р. ПРИХОЖИЕ 200 р.
ДЕТСКИЕ 600 р. СПАЛЬНИ 550 р.
ШКАФЫ-КУПЕ
Доставка и замер – бесплатно
РАССРОЧКА на 12 месяцев
0% предоплаты, без справок и поручителей
МТС (029) 283-75-22 Vel (044) 518-72-21
Частное предприятие "РайтЛайн" УНП 192583174

REHAU
ИП Шульжицкий О.В. УНП 691882990
ЭНЕРГОСБЕРЕГАЮЩИЕ
ОКНА
Балконные раздвижные рамы из ПВК и алюминия
Москитные сетки
Отделка откосов
Гарантия 5 лет
г. Молодечно,
ул. Виленская, д.1, к.111
Тел. 8-029-153-10-37 (Велком)
8-033-363-39-09 (МТС)
Т/факс: 8-0176-50-26-37

МАРА
МАГАЗИН
МЕБЕЛЬ
РЕЖИМ РАБОТЫ
с 1 октября по 31 марта
понедельник - пятница
10.00 – 19.00
перерыв на обед
14.00 - 15.00
суббота, воскресенье
10.00 - 15.00
БЕЗ ВЫХОДНЫХ
Молодечно,
Ф.Скорины, 12
(80176) 76-32-24,
76-32-26.
ОДО "Мара плюс" УНП 600058675

АДПАЧЫНАК

# Як дэпутат адпачываў у Егіпце

**Салон цяперашняга Боінга-737 нагадвае плацкартны вагон часоў позняга СССР. У мэтах эканоміі авіялініі перасталі карміць пасажыраў абедамі на борце.**



Фота з асабістага архіва Ігара КІЦІКАВА.

Ігар Кіцікаў на рыбным рынку ў Егіпце.

Большасць па старой добрай звычцы адразу пасля ўзлёту і маналогу з Богам дастаюць прыпапашаную ежу: вараную курачку, кілбаску і, вядома ж, сала.

Адкажам на пытанне, якое больш цікавіць нашага абывацеля: што ты, Ігар, робіш у гэтым Боінгу (як напісаў адзін добразычлівец ў сацсетках: "Весь так шыкуюць дэпутаты ў крызіс")? Справа ў тым, што два гады не адпачывалі сям'ёй на моры. І зноў пачую: "Крызіс, не да раскошы". Падарожнічаць у нашай сям'і – гэта, можна сказаць, праца: я – географ, любімая жонка – географ, любімая дачка не проста географ, а супрацоўніца найбуйнейшай турыстычнай кампаніі Расіі. Да таго ж падарожнічаць у крызіс і не ў сезон – гэта танна. Егіпет 10 дзён 5* каштуе на траіх каля 1 300 рублёў з Барыспаля.

Адпачыць у гэты час на Нарачы абышлося б у 2 000 рублёў. Улічваючы, што мы былі ў студзені, якраз на Каляды, калі ў Беларусі тэмпература была -26, а ў Хургадзе +22, як гаворыцца, адчуйце розніцу. Да аэрапорта "Барыспаль" дабіраліся на машыне каля 600 км у адзін бок. Аўтамабіль пакінулі на ахоўнай стаянцы. І праз 3 гадзіны 45 хвілін мы ў Афрыцы...

У Хургадзе частка гатэляў зачыненая, частка паўпустыя – у Егіпце крызіс у сувязі з адсутнасцю расійскіх турыстаў, ва Украіне крызіс звязаны з ваеннымі і палітычнымі падзеямі. Усюды ідзе бітва за турыста, і зніжкі, зніжкі, зніжкі. Нам трэба вучыцца ў іх выжываць і зарабляць.

Наш гатэль быў запоўнены на 70%.

Рыбны рынак даволі зашмальцаваны і стары, усюды вельмі брудна. Рай для нашай санстанцыі. Тым не менш, рыба і ўсякія марскія прысмакі свежыя, ляжаць на свежым лёдзе. Цэны ад 2 $ (4 рублёў) за 1 кг. Ёсць тунец, зубастая рыба-іголка, рыба-папугай, крэветкі сярэднія, лобстары, крэветкі маленькія, крэветкі велізарныя.

Праз дарогу ад рыбнага рынку знаходзіцца рэстаран. У гэтым рэстаране вам прыгатуюць абсалютна любую марскую страву па цэнах рынку + 10%. Гэта значыць, вы прама ў рэстаране можаце выбраць любы від марскіх насельнікаў, якіх вам тут жа прыгатуюць. Меню на рускай, англійскай і арабскай мовах.

Вуліца Шаратон – гэта цэнтральная вуліца Хургады, галоўная яе артэрыя, шумная і ажыўленая, рух на якой не сціхае ні днём, ні ноччу. Яна злучае марскую набярэжную Марына і гістарычны цэнтр Хургады – стары горад Эль-Дахар. Уздоўж вуліцы размясціліся гатэлі, рэстараны і бары, кафэ і закусачныя, крамы і сувенірныя крамы, кальянныя з мяккімі тэрасамі.

Вуліца Шаратон, у літаральным сэнсе гэтага слова, перапоўненая сувенірнымі крамамі. Прайсці міма і не зайсці хоць бы ў адну з іх вам наўрад ці ўдасца – прадаўцы зазываюць патэнцыйных пакупнікоў у свае крамы і крамкі на любых падставах. Самыя распаўсюджаныя хітрыкі – напрыклад, пакурыць кальян і нават выпіць алкаголю, просьба напісаць рэкламу на рускай мове або абяцанне падарыць другі сувенір, калі набудзеце хоць бы адзін, ці яшчэ шмат чаго падобнага. Але такое становішча рэчаў, варта сказаць, вельмі выгаднае для пакупніка.

**Любы прадавец, якому вы надалі хоць бы хвіліну ўвагі, будзе гатовы саступіць вам сувеніры па смешнай цане – абы не адпусціць кліента да канкурэнта па суседстве.**

Я купляў магніцікі па цане адзін рубель, майкі з баваўны – па 10. Карыстайцеся гэтым і таргуйцеся да апошняга, гэта іх звычай і жыццё.

### Егіпецкая царква

Копцкая царква – адна з галоўных рэлігійных славутасцяў Хургады, гістарычны і архітэктурны помнік. Яна размешчаная ў старым горадзе Хургады. Яе архітэктура адначасова простая і ўражвае сваёй веліччу, якая прываблівае ўвагу мудрагелістым спалучэннем традыцый хрысціянскага дойлідства і ісламскіх элементаў. Сёння копцкая царква – гэта дзейсны храм праваслаўных егіпцянкоптаў.

Гісторыя царквы бярэ свой пачатак з 20 стагоддзя, калі ў Егіпце быў развіты нафтавы бізнес. На нафтавых радовішчах і заводах запраўлялі і працавалі пераважна англічане, і іх было нямала. Таму ў 1922 годзе яны пабудавалі для сябе хрысціянскую царкву, каб рэгулярна далучацца да рэлігіі – гэтак жа, як і ў роднай Англіі. Праз нейкі час нафтавыя свідравіны вычарпаліся, і англічане пакінулі Хургаду, адаўшы царкву мясцовым хрысціянам-коптам.

Копты – гэта карэннае неарабскае насельніцтва Егіпта, якое лічыць сябе прамымі нашчадкамі старажытных егіпцян. Рэлігія, якую яны выспавядваюць, – хрысціянства, пераважна праваслаўе. На Каляды, калі мы наведвалі царкву, яна была ачэпленая аўтаматчыкамі, а ўваход быў праз металадэтэктар.

У вольны ад адпачынку час я устройваў майстар-класы атэльным барменам па вывучэнні беларуска-рускіх тостаў. Трэба было бачыць, як старанна маладыя арабы, пасеўшы за стойкай, на сурвэтках запісвалі за мной арабскай вяззю ўрок. Навошта гэта ім, спытаеце вы, а затым, што яны не проста абслугоўваюць рускамоўных турыстаў, а імкнуцца стварыць ім добры настрой і, вядома ж, атрымаць свой долар на чай.

А раніцай на беразе мора я выкладаў мясцовым выратавальнікам і кітайцам прыёмы рукапашнага бою. Увогуле, быў паважаным чалавекам, мяне так і звалі – Настаўнік, з вялікай літары. І ўвогуле, беларусаў любяць: "Вы не такія, як іншыя, вы дабрэйшыя і спакайнейшыя".

Можа, гэта якасць і не дазваляе нам часам зарабіць свой долар. Але ўсё роўна прыемна.

**Ігар КІЦІКАЎ,**
**Вілейка.**

# Вілейка атрымала смеццявоз, а школьнікі – эксклюзіўныя шакаладкі

ВІЛЕЙКА

Калі вы ўбачыце на вілейскіх вуліцах смеццявоз з надпісам "Хопіць смецце памнажаць! Лепш яго рассартаваць!", ведайце, гэты аўтамабіль перадалі ЖКГ прадстаўнікі Еўрасаюза.

Каштуе машына 45 тысяч еўра і атрымалі яе ў межах праекта "Патрэба ў эфектыўным кіраванні жыллёва-камунальнай гаспадаркай".

Віляйчане паклапаціліся, каб перадача смеццявоза адбылася ярка і запамінальна. Мерапрыемства зладзілі 21 красавіка на Вілляніным хутары.

– Гэта месца мы выбралі не проста так, – тлумачыць адна з арганізатараў праекта намеснік дырэктара Палаца культуры **Вольга Шляпо**. – У 2009 годзе менавіта з Вілляніната хутара пачалася дзейнасць вілейскіх энтузіястаў на чале з **Таццянай Цітуленкай**.

Некалькі экалагічных праектаў ужо рэалізавалі ў Вілейцы. А ад жніўня 2016 года ў Вілейскім і Іўеўскім раёнах запусцілі яшчэ адзін праект. Партнёрамі сталі Вілейскі і Іўеўскі райвыканкамы, арганізацыя "Экапартнёрства", Беларускае таварыства абароны спажыўцоў.

У рамках праекта ў Вілейцы ўжо з'явіліся 111 еўракантэйнераў для паасобнага збору смецця.

На цырымонію перадачы прыехалі старшыня арганізацыі "Экапартнёрства" **Юлія Яблонская** і прадстаўнік Еўрасаюза ў Беларусі **Алена Ракава**. Былі прадстаўнікі Вілейскага райвыканкама і ЖКГ.

Пад акампанемент узорнага аркестра дзіцячай школы мастацтваў перарэзалі сімвалічную чырвоную стужку. А дырэктару вілейскай ЖКГ **Віктару Паўлоўскаму** Алена Ракава ўручыла ключы ад новага смеццявоза.

На Вілляніным хутары стаяць кантэйнеры для паасобнага збору смецця. Таму ўсе зацікаўленыя змаглі пабачыць, як працуе смеццявоз.

Адна з мэт праекта – інфармаванне гараджан. Таму наступным этапам стала інфармацыйная гадзіна, прысвечаная паасобнаму збору смецця, у вілейскай школе №3. Пасля таго, як дзевяцікласнікі даведаліся пра тэорыю паасобнага збору смецця, яны змаглі своеасаблівa папрактыкавацца. Напрыклад, на некалькі хвілін стаць дырэктарам ЖКГ.

Усе ўдзельнікі інфармацыйнай гадзіны атрымалі падарункі: кніжкі на экалагічную тэматыку і шакаладкі. Абгорткі для шакаладак з надпісам "Балтыйскае мора пачынаецца тут" падрыхтавалі спецыяльна да вілейскага мерапрыемства.

Па словах Вольгі Шляпо, у бліжэйшых планах – набыццё аўтаматызаванай лініі для сартавання смецця і праколвальніка для пластыкавых бутэлек.

Аксана ЯРАШОНАК.

## Падземная небяспека

**Нягледзячы на работу, якая праводзіцца па прафілактыцы парушэнняў пры выкананні будаўнічых і земляных работ, маюць месца выпадкі пашкоджання падземных газаправодаў. У выніку адбываецца адключэнне спажыўцоў ад газазабеспячэння, наносіцца матэрыяльная шкода, ствараецца аварыйная абстаноўка, узнікае пагроза здароўю і жыццю насельніцтва, працуючаму персаналу.**

З мэтай забеспячэння захаванасці ўздоўж газаправодаў ўстаноўленыя наступныя ахоўныя зоны (ад восі газаправода з кожнага боку): для нізкага ціску – 2 метры, сярэдняга ціску – 4 метры, высокага ціску II катэгорыі – 7 метраў, высокага ціску I катэгорыі – 10 метраў. Філіял ВУ "Маладзечнагаз" звяртае ўвагу кіраўнікоў прадпрыемстваў і ўладальнікаў прыватных дамоў на захаванне мер бяспекі пры правядзенні земляных работ у ахоўных зонах газаправода.

Згодна з "Палажэннем аб парадку ўстанаўлення ахоўных зон аб'ектаў газаразмеркавальнай сістэмы, памерах і рэжыме іх выкарыстання", зацверджанага пастановай Савета Міністраў РБ ад 06.11.2007 №1474, для пачатку работ у месцах размяшчэння газаправодаў як юрыдычным, так і фізічным асобам неабходна атрымаць пісьмовы дазвол газазабеспячэнскай арганізацыі, удакладніць на мясцовасці дакладнае размяшчэнне газаправода, для чаго папярэдне (за суткі) выклікаць прадстаўніка газавай гаспадаркі. Перад пачаткам раскопак для ўдакладнення размяшчэння газаправодаў і глыбіні іх залягання выканаўцам работ павінна быць праведзенае шурфаванне (кантрольнае ўскрыццё) газаправода пад наглядам прадстаўніка філіяла ВУ "Маладзечнагаз". Пры гэтым выканаўца работ павінны забяспечыць абазначэнне трасы газаправода і збудаванняў на ім, іх захаванасць на ўвесь перыяд правядзення работ.

Парушэнне патрабаванняў "Палажэння..." і пашкоджанне газаправода цягне за сабой складанне пратаколу на вінаватую асобу з накладаннем штрафу ў памеры ад трыццаці да пяцідзесяці базавых велічынь.

Выплата штрафу не вызваляе вінаватых ад пакрыцця нанесенай матэрыяльнай шкоды ва ўстаноўленым заканадаўствам парадку.

Філіял ВУ "Маладзечнагаз". УНП 100008077.



Фота 24Warez.Ru.

Падрыхтуйцеся да адключэння гарачай вады загадзя: дастаньце вялікія каструлі, дамоўцеся з сябрамі, у якіх ёсць гарачая вада альбо бойлер, прыходзіць да іх мыцца; адносьцеся да гэтай сітуацыі, як да нармальнай жыццёвай з'явы.

# Пачынаецца апрасоўка цепласетак

## Гарачую ваду ў Маладзечне пачнуць адключаць ад 10 мая, у Вілейцы – 15-га

МАЛАДЗЕЧНА

**У маі і чэрвені будуць гідраўлічныя выпрабаванні цеплавых сетак. Яны пройдуць ад 10 мая да 6 чэрвеня. Гарачую ваду плануюць адключаць у два заходы.**

### Ад 10 да 23 мая

Пройдзе апрасоўка цеплавых сетак зоны міні-ТЭЦ. Гарачая вада будзе адсутнічаць па наступных аб'ектах:

– Вялікі Гасцінец – усе жылыя дамы і аб'екты з дома №64 (па цотным баку) і з жылога дома №85 (па няцотным баку) уключна ў бок ЗМК;
– раён Здземелева;
– гарадская бальніца №1;
– басейн;
– раён Гелянова;
– вуліца Багдана Хмяльніцкага, дамы №№42, 44, 44-а, 46, 48, 5, 7, 9, 3, 3-а, 3-б;
– вуліца Талстога, дамы №№1, 3, 3-а, 5, 10, 12, 8, 4, 2;
– гандлёва-эканамічны каледж;
– дзіцячыя сады №№6, 26, 15, 4, 17, 12, 27, 9, 16;
– вуліца Віленская, дамы №№1, 3, 5, 7, 9, 2, 4, 6, 8, 10;
– вуліца Валынца, дамы №№7, 9, 10;
– вуліца Прытыцкага, дамы №№6, 10, 12, 14, 16, 18, 25, 27;
– дзіцячая школа мастацтваў;
– гатэль "Маладзечна";
– Палац культуры;
– Следчы камітэт;
– КДБ;
– музей;
– суд;
– кінатэатр "Радзіма";
– Беларусбанк;
– БПС-банк;
– БелБізнесБанк;
– вуліца Грамадоўская, дамы №№8, 12, 14, 19-а;
– вуліца Буйніцкага,
– вуліца Лібава-Роменская, дамы №№1, 1-а, 1-б, 51, 47, 45, 49;
– вуліцы Лебедзеўская, Чкалава, Таміліна, Галіцкага;
– вуліца Бухаўшчына, дом №60;
– лазня №2;
– сярэдняя школа №2;
– гімназія №7.

### Ад 24 мая да 6 чэрвеня

Апрасоўка цеплавых сетак зоны кацельні-2. Гарачай вады не будзе на наступных аб'ектах:

– Вялікі Гасцінец, ад жылога дома №68 (па цотным баку) да мікрараёна №11 уключна, ад дома №107 (па няцотным баку) да мікрараёна №6 уключна;
– дзіцячыя сады №№1, 2, 7, 8, 10, 11, 14, 19, 20, 21, 22, 23, 24, 25, 28, 29, 30, 31, 32, 33, 34, 35, 61;
– мікрараёны №№4, 6, 10;
– Вялікае Сяло;
– Залінейны раён;
– раён станказавода;
– раён №11 Усходні,
– вуліцы Янкі Купалы, Касманаўтаў, Францішкі Скарыны, Будаўнікоў, Ламаносава;
– вуліца Багдана Хмяльніцкага (акрамя дамоў №№42, 44, 44-а, 46, 48, 5, 7, 9, 3-а, 3-б);
– вуліца Віленская (акрамя жылых дамоў ад №1 да №10 уключна);
– вуліца Валынца (акрамя жылых дамоў №№7, 9, 10);
– вуліца Прытыцкага, дамы №№1, 2, 3, 4, 5, 7, 8, 9, 11;
– вуліца Грамадоўская (акрамя жылых дамоў №№8, 12, 14, 19-а);
– вуліца Лібава-Роменская (акрамя жылых дамоў №№1, 1-а, 1-б, 51, 47, 45, 49);
– вуліца Магістральная, дамы №№1, 1-а, 3, 5;
– лазні №№1, 4;
– пазаведамасная ахова;
– Аграпрамбанк;
– вуліца 17 Верасня – жылыя дамы №№1, 3, 5;
– вуліца Таўлая;
– сярэднія школы №№1, 4, 6, 8, 9, 10, 11, 12, 14, сярэдняя адукацыйная школа мастацтваў, інтэрнаты №№1, 2, ДЮСШ, ГЦ Тройка", ГАЦ "Модуль", спартыўна-забаўляльны цэнтр "Лядовы палац", летні амфітэатр;
– вуліца Снежная, дамы №№2, 4, 6, 8, 10;
– гарадская паліклініка, раённая бальніца, дзіцячая бальніца.

Падчас апрасоўкі магчымыя пашкоджанні цеплатрас. У выпадку паспяховых выпрабаванняў трубаправодаў цеплавых сетак і адсутнасці дэфектаў, якія патрабуюць выканання незапланаваных рамонтна-аднаўленчых работ, адключэнне гарачага водазабеспячэння не будзе перавышаць 14 дзён.

За пашкоджанне ўнутраных сістэм ацяплення і воданагравальнікаў маладзечанскія электрасеткі не нясуць адказнасці.

**Просяць усіх гараджан і спажыўцоў цеплавой энергіі ў выпадку знаходжання працякання вады альбо выпарэння з зямлі, калодзежаў, правалаў грунту тэрмінова паведаміць па тэлефонах: (80176) 54-62-70, 73-67-32, 151.**

Паводле Маладзечанскіх электрычных сетак.

### Калі адключаць гарачую ваду ў Вілейцы

Па словах начальніка міні-ТЭЦ Вілейкі **Уладзіміра Палачанскага**, гідраўлічныя выпрабаванні цепласетак у горадзе пачнуцца ад 15 мая. Да 28 мая віляйчане будуць без гарачай вады.

Аддзел інфармацыі.

ГІСТОРЫЯ

# Званы забытае бажніцы

## Гісторыя беркаўскай царквы

*Заканчэнне. Пачатак у №16.*

**У сярэдзіне 19 стагоддзя стан драўлянай царквы і званіцы быў незайздросны: “здание … ветхое, требует новой крыши и пола за иконостасом”.**


Кои мужеска / Рожденныи / Крещенныи / За 1840 Годъ / Мужеска пола / Женска пола

1840

1. Генваря 6. 13. Степанъ сынъ крестьянъ изъ деревни [illegible] и Екатерины [illegible] законно венчанныхъ прихожанъ Беркавской Церкви [illegible] его восприемниками были: Степанъ [illegible] съ [illegible] Крещенъ и Миропомазанъ 1.

Крестилъ и миропомазалъ [illegible] Священникъ Яковъ Прокоповичъ

Скан забяспечаны Анатолем СЦЕБУРАКАМ.

Подпіс Якава Пракаповіча ў метрычнай кнізе. 1840 год.

Праверка 1847 года зафіксавала адсутнасць у храме даразахавальніцы, дараносіцы, keліха, напрастольнага крыжа і іншага.

Да Беркаўскай царквы была прыпісаная Марцыянаўская драўляная царква ў вёсцы Сваткі, стан якой быў яшчэ больш бедны (“Неизвестно кем и когда построена; престол в ней один во имя пресвятой Богородицы; здание деревянное крепкое; утвари нет; причта нет; жилого дома нет; земли нет”).

У 1870-я гады ў Крывіцкай воласці была вылучаная асобная Беркаўская сельская грамада, якая ўключала навакольныя паселішчы: Зарэчнае, Беркаўшчыну, Лёткі, Субачы, Баравыя, Лазавыя, Кержынь, засценак Задубенне. Разам тут жылі 142 рэвізскія душы, а найбуйнейшым землеўласнікам быў шляхецкі род Козелаў.

У гэты перыяд адбываецца відавочны заняпад Беркаўскіх абшараў. Цэнтрамі культурнага і рэлігійнага жыцця пакрысе становяцца суседнія дынамічныя мястэчкі – Крывічы і Княгінін.

Праўда, царква ў Беркаўцах працягвае дзейнічаць, а пры ёй функцыянуюць уласныя беркаўскія могілкі. Прыкладам, паводле Літоўскіх епархіяльных ведамасцяў, Якаў Пракаповіч 1 мая 1864 года адслужыў урачыстае набажэнства аб здароўі манарха і аб вызваленні сялян ад прыгону.

**Удзячныя сяляне сабралі 16 рублёў срэбрам і набылі для царквы дзве харугвы.**

### Апошнія святары

Паводле дакументаў з Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі ў Гродне, беркаўскім настаяцелем да 1869 года быў **Якаў Пракаповіч**, а дзячком **Восіп Андрушкевіч**. У гэтым жа годзе святар змяніўся, ім стаў **Фёдар Памяранцаў**, відавочна выхадзец з унутраных расійскіх губерняў. Дасяжныя для даследчыка метрычныя кнігі 1869 – 1875 гадоў захоўваюць запісы, зробленыя рукой Памяранцава.

На той момант гэта быў малады святар, які папярэдне служыў дыяканам у Маладзечне, а ад 1869 да чэрвеня 1875 года – настаяцелем Беркаўцаў. Да сваёй смерці ў снежні 1895 года святар яшчэ зменіць шмат прыходаў на Слонімшчыне і Дзісеншчыне.

Апошнім дакументальна зафіксаваным у 1876 годзе святаром у Беркаўцах быў **Міхаіл Біруковіч**. Цікава, што ўжо з 1866 года ён служыў у Княгінінскай царкве і адначасова выкладаў у Княгінінскай народнай вучэльні. Ён пайшоў на адпачынак (“за штат”) паводле ўласнага прашэння ў 1891 годзе і памёр ва ўзросце 81 год 31 жніўня 1897 года.

На жаль, тыя дакументы Беркаўскай царквы, што зберагаюцца ў гродзенскім архіве, абрываюцца на 1876 годзе. Гэта наводзіць на думку, што ў сярэдзіне 1870-х Беркаўская царква страціла статус парафіяльнай, а служэнне ў ёй адбывалася ўсё радзей, калі сюды меў магчымасць завітваць святар з Княгініна.

### Царква паступова разбуралася

Што ж адбылося з прыходам ў 1880-90-я гады?

У кнізе А. Сапунова пра Вілейскі павет 1896 года Беркаўская царква ўжо не фігуруе ў апісанні самастойна. “У Беркаўшчыне, каля в. Зарэчнае, некалі была самастойная царква”. Не зусім адназначная пабудова выразу пакідае пэўныя сумнівы: Беркаўскай царквы цяпер няма? Ці цяпер яна не самастойная?

Усё ж, відаць, на канец 19 стагоддзя царква існавала, але ўжо не была парафіяльнай, а абмяжоўвалася сціплым статусам могілкавай. На карысць гэтага кажа тое, што ў апісанні Княгінінскай парафіі ў 1893 годзе гаварылася пра наяўнасць дзвюх цэркваў на кладах – на жаль, без удакладнення геаграфіі.

**Відавочна, даўнейшая ўніяцкая царква не бачыла рамонту і паступова разбуралася…**

Яшчэ ў пачатку 20 стагоддзя жыхары навакольных вёсак яе маглі бачыць. Паводле ўспамінаў мясцовай жыхаркі **Ксеніі Сцебуракі**, царква яшчэ стаяла зачыненая на пагорку: пачарнелая ад часу, пад шатамі вялізных дрэў. Абапал царквы былі могілкі, а насупраць, праз дарогу, быў дом святара – верагодна, вядомая нам з рэестру 1766 года плябанія.

### Замест могілак – ралля

Відаць, яна не перажыла Першай сусветнай вайны, бо ў 1920-30 гадах на месцы былой бажніцы заставаліся толькі ўзгоркі старых пахаванняў, а новых ужо не дадавалася.

**У час савецкага панавання тэрыторыя беркаўскіх могілак спатрэбілася мясцоваму калгасу пад урадлівую раллю.**

Пры дапамозе цяжкай тэхнікі надмагільныя камяні былі вывезеныя ці зааранныя ў зямлю. Захавалася толькі невялікая купка дрэў і пад імі ў беспарадку звезеная з палеткаў крушня. У гэтым месцы некалькі год таму знайшлі каменны келіх, які служыў для ўтрымання святой вады пры ўваходзе ва ўніяцкі храм. А таксама масіўная мемарыяльная пліта з выразным надпісам на рускай мове.

“1869 год. Здесь покоится иерей Яков Прокопович с супругою Анной, матерью, зятьями и внуками. Со святыми упокой Христе Боже раб твоих. Дети Родителям и родным”.

### Справа гонару – навесці парадак

Цікава, што пры расчыстцы зямлі вакол помніка знайшлі рэшткі мураванага з цэглы, камянёў і вапны фундамента. Мяркуючы па ўсім, ён служыў апірышчам для помніка святару Якаву Пракаповічу. Такім чынам, мы маем справу не са скінутым з палеткаў помнікам. Відавочна, што быў адкрыты фрагмент даўнейшых могілак, якія пачыналіся якраз пры дарозе і займалі месца вакол царквы.

Адпаведна, знойдзены помнік ёсць, хутчэй за ўсё, мемарыяльнай плітой для ўсёй вялікай сям'і святара. Яе паставілі ў 1869 годзе, калі памёр сам настаяцель. Да гэтага моманту ўжо, відаць, паспелі памерці многія з яго сваякоў, яны і былі пахаваныя тут жа на беркаўскіх кладах.

Час не быў літасцівы да Беркаўскай царквы. Ад яе не засталося нават напаміну ў выглядзе руінаў ці знака – у выглядзе крыжа. Толькі некалькі камянёў, сярод якіх павалены помнік Якубу Пракаповічу нагадвае, што на працягу стагоддзяў тут узносіліся крыжы спачатку ўніяцкай, а пасля і праваслаўнай царквы.

Безумоўна, аднаўленне храма выглядае сёння цалкам фантастычна, але навядзенне парадку і ўсталяванне на пастаменце помніка святару мусіць стаць справай гонару для сённяшніх грамадзян Вілейскага павета.

**Анатоль СЦЕБУРАКА,** кандыдат гістарычных навук, дацэнт.
**Дзяніс ЛІСЕЙЧЫКАЎ,** кандыдат гістарычых навук, намеснік дырэктара Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі.

КАЛЯНДАР

### 29 КРАСАВІКА

Нарадзіўся **Мікола Ермаловіч** (1921 – 2000), беларускі гісторык, публіцыст, пісьменнік і паэт. Жыў у Маладзечне.

**2002 год**. Памёр **Ігар Гермянчук**, грамадска-палітычны дзеяч, галоўны рэдактар газет “Свабода” (1991-1997 гг.). “Навіны” (1998-1999 гг.). часопіса “Кур'ер” (2000-2002 гг.).

### 1 МАЯ

**1895 год**. У Мінску адбылося першае святкаванне рабочымі 1 Мая.

### 2 МАЯ

**120 гадоў** з дня нараджэння (1897) **Андрэя Капуцкага**, дзеяча рэвалюцыйнага і нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі (партызанскія мянушкі Лёкса, Хвастоў) і пісьменніка, публіцыста, журналіста (пісаў пад псеўданімам Язэп Пралеска). Нарадзіўся ў Маладзечне, скончыў Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю. Знаходзячыся ў арміі (ад 1916), пачаў займацца рэвалюцыйнай дзейнасцю, у 1917-м жыў у Петраградзе. Ад 1918-га – у Маладзечне, дзе адразу ўзяў удзел у нацыянальна-вызваленчым руху, быў адным з заснавальнікаў і кіраўнікоў Беларускай рэвалюцыйнай арганізацыі (1922), разам з якой у снежні 1923 уступіў у КПЗБ. Тройчы арыштоўваўся польскімі ўладамі. У ліпені 1927 года нелегальна перайшоў польска-савецкую мяжу. Думаў ён, як і сотні іншых заходніх беларусаў, што ўцякае да сваіх. Жыў у Мінску, працаваў у рэдакцыі газеты “Звязда”, часопісе “Полымя рэвалюцыі”. У 1931 годзе скончыў Камуністычны ўніверсітэт Беларусі. Працаваў у Гістпарце (інстытуце гісторыі партыі) пры ЦК КП(б)Б, в.а. рэдактара газеты “Савецкая Беларусь”. Арыштаваны ў верасні 1933 года пра справе “Беларускага нацыянальнага цэнтра” і кінуты ў Вілейскую турму. 9 студзеня 1934 года прыгавораны да расстрэлу. Рэабілітаваны 16 ліпеня 1956 года. Яго імем у 1977 годзе названая вуліца ў Маладзечне (раней была Зялёная).

**1903 год**. Нарадзіўся вядомы ўсім маладым бацькам па ўсім свеце доктар **Бэнджамін Спок**. Амерыканскі доктар-педыятр напісаў самую папулярную кнігу пра догляд дзіцяці ад самага нараджэння. І шмат якім бацькам гэта кніга замяніла дапамогу цешчы і свякрухі.

### 3 МАЯ

**Сусветны дзень свабоды друку.**

Падрыхтавала **Марыя БЕРАСНЕВА.**

# "Энергаблок БелАЭС вытрымае нават

АСТРАВЕЦ

**Тая пабудова, што звычайна малююць са значком радыяцыі, ні што іншае, як звычайная градзірня, дзе, акрамя пары, нічога не будзе.**

Пра гэта і не толькі расказаў падчас прэс-тура на Беларускую АЭС галоўны інжынер станцыі **Анатоль Бондар**.

Сёння на Астравецкай АЭС працуе каля 4 тысяч 700 рабочых, працы вядуцца адначасова на 119 аб'ектах. На гэтых працах задзейнічаны 34 арганізацыі, 24 з якіх – беларускія.

### Як змяніўся Астравец

Яшчэ на пад'ездзе да станцыі разумееш, наколькі змяніўся і сам горад.

У Астраўцы будуюцца дамы для тых, хто працуе на станцыі, і іх сем'яў, пабудаваныя дарогі і чыгуначны пуць, які вядзе да АЭС.

На 2018 год запланаванае ўзвядзенне яшчэ шасці шматкватэрных дамоў.

Ні для каго не сакрэт, што Астравецкая АЭС знаходзіцца ў 20 кіламетрах ад горада, але вось што адбываецца там, унутры, маловядома для многіх.

Дзякуючы таму, што прадстаўнікоў прэсы пускаюць на тэрыторыі, якія закрытыя для наведванняў, мы вам раскажам, што там адбываецца. Але перш чым туды трапіць, нам давялося здаць мабільныя тэлефоны ў камеры захоўвання і замацаваць каскі.

### АЭС сёння

Працы на станцыі ідуць і днём, і ноччу.

Падчас яе наведвання нам паказалі будынак рэактара і турбіны першага энергаблока, дзе цяпер актыўна вядзецца мантаж абсталявання; вучэбна-трэніровачны цэнтр, дзе спецыялісты адпрацоўвалі адну з магчымых няштатных сітуацый; камплектную газавую размеркавальную прыладу, адкуль выпрацаваная на станцыі электраэнергія адправіцца ў энергасістэму Беларусі.

Сёння на энергаблоку №1 змантаваны корпус рэактара і ўсе чатыры парагенератары. Вядуцца падрыхтоўчыя работы да зваркі галоўнага цыркуляцыйнага трубаправода.

Каля энергаблока ляжыць вялізная металічная "цюбецейка". Гэта – верх вонкавай ахоўнай абалонкі. Яе ўсталююць на адзнацы 44 метры.

Пра сістэму бяспекі распавёў галоўны інжынер станцыі **Анатоль Бондар**:

– Ахоўная абалонка – гэта ўнікальнае збудаванне, адносіцца яно да лакалізаванай сістэмы бяспекі. Таўшчыня – 1,8 метра, дыяметр 44 метры. Дапаўняе яе пастка расплаву актыўнай зоны. Знаходзіцца яна пад дном корпуса рэактара і прызначаная на выпадак запраектнай аварыі.

Анатоль Бондар расказаў, што нават гіпатэтычна ён не можа прывесці прыклад такой аварыі, пры якой спрацавала б пастка расплаву актыўнай зоны, бо таўшчыня самога корпуса рэактара дазваляе любой запраектнай аварыі застацца ўнутры корпуса.

Металічная ж "цюбецейка" – гэта дах вонкавай абалонкі. Яна можа вытрымаць падзенне на яе самалёта вагой амаль шэсць тон, здольная абараніць корпус рэактара ад цунамі і землятрусаў.

У цяперашні момант ідзе выверка палажэння корпуса рэактара і парагенератараў па восях.

Корпус рэактара – гэта агрэгат вышынёй 11 метраў і дыяметрам 4,5 метра, важыць больш за 330 тон. Адхіленне корпуса рэактара па вертыкалі не можа быць больш за 1 міліметр.

### Падрыхтоўка персаналу

Падрыхтоўцы персаналу, тых, хто будзе абслугоўваць электрастанцыю, ужо сёння надаецца вялікая ўвага.

Паколькі некаторыя пасады патрабуюць доўгай падрыхтоўкі, вучоба пачалася задоўга да таго, як атамная станцыя пачне працаваць.

У 2014-2015 гадах кадры для Беларускай АЭС вучыліся ў Расіі, а ад 2016 года на базе вучэбна-трэніровачнага цэнтра з двума трэнажорамі: поўнамаштабным і аналітычным, якія працуе тут жа, на Астравецкай АЭС.

– На першым энергаблоку ўжо цалкам укамплектаваны персанал блочнага шчыта ўпраўлення, – распавядае Анатоль Бондар. – Гэта начальнікі змен блока, начальнік змен рэактарнага цэха, начальнікі змен турбіннага цэха, вядучы інжынер ўпраўлення рэактара, вядучы інжынер кіравання турбінай. Гэты персанал цяпер праходзіць вучобу на трэнажоры, які мадэлюе блочны шчыт кіравання.

Сёння заняткі ў вучэбна-трэніровачным комплексе праходзяць штодзённа.

Не стаў выключэннем і той дзень, калі станцыю наведалі мы.

У класе на тым самым поўнамаштабным трэнажоры займаліся будучыя спецыялісты.

Першапачаткова станцыя працуе ў штатным рэжыме, але калі раптам нешта здараецца, загараюцца датчыкі, уключаецца сігналізацыя. І па заданні спецыялісту трэба знайсці прычыну аварыі, далажыць і выканаць патрэбныя дзеянні.

Калі прычына аварыі не будзе выяўленая, то спрацуе аварыйная ахова, рэактар будзе спынены. Задача персаналу – не дапусціць гэтага. А калі дапусцілі, перавесці блок у бяспечны рэжым.

**Наталля ТУР.**
**Фота Зоі ХРУЦКАЙ.**



Намеснік міністра энергетыкі Міхаіл Міхадзюк.



Галоўны інжынер БелАЭС Анатоль Бондар.



**У чым эфектыўнасць Беларускай АЭС**

➢ Выкіды парніковых газаў у Беларусі зменшацца на 10%

➢ Спажыванне прыроднага газу знізіцца на ¼

➢ Генерацыя да 30% электраэнергіі ў краіне.

Рабочы на вяршыні "цюбецейкі" – даху вонкавай абалонкі корпуса рэактара




Здаецца, што корпус рэактара абаронены ад усіх магчымых аварый.

## Бяспека Беларускай АЭС – наш галоўны прыярытэт

Пасля наведвання будаўнічай пляцоўкі для журналістаў зладзілі прэс-канферэнцыю, на якой на пытанні адказваў намеснік міністра энергетыкі **Міхаіл Міхадзюк**.

Аднак першае пытанне міністр сам задаў журналістам:

– Ці ўсё вам паказалі на станцыі з таго, што вы хацелі ўбачыць?

Калі казаць пра тое, што агучыў намеснік міністра энергетыкі падчас прэс-канферэнцыі, то тэзісна можна вылучыць наступнае:

**1 Астравецкая АЭС забяспечыць 30% патрэбы Беларусі ў электраэнергіі.**

Што тычыцца магчымага экспарту, то намеснік міністра адзначыў, што Беларусь і цяпер гатовая прадаваць электраэнергію.

– Пры гэтым БелАЭС будуецца ў першую чаргу для ўласных патрэб. Цяпер мы прадаём электраэнергію ў тым ліку Літве, – адзначыў Міхаіл Міхадзюк.

**2 Столькі даследаванняў, колькі праводзіцца на БелАЭС, не праводзілі нідзе.**

– Мы правялі беспрэцэдэнтна вялікі аб'ём даследаванняў па ўсіх напрамках, калі выбіралі пляцоўку для будаўніцтва, і гэта было адзначана экспертамі МАГАТЭ. Не толькі па сейсмалагічных, але і іншых напрамках працягваецца маніторынг. Місія МАГАТЭ ў студзені пацвердзіла, што абраная пляцоўка і праектныя рашэнні забяспечваюць адказ на ўсе знешнія пагрозы.

**3 Беларусь і Расія дамовіліся пра пастаўку корпуса рэактара для другога энергаблока АЭС.**

– У нас падпісанае дадатковае пагадненне да кантракта, якім прадугледжваецца, што для другога энергаблока генпадрадчык у кантрактныя тэрміны паставіць корпус рэактара, выраблены для Балтыйскай АЭС. Ён ідэнтычны, таму што Балтыйская АЭС праектавалася гэтак жа, як і Беларуская АЭС.

Аднак тэрміны пастаўкі корпуса рэактара пакуль невядомыя.

– Гэта пытанне двух-трох тыдняў. Яшчэ не дапрацаваная лагістычная схема.

# т падзенне самалёта”



Фота з вышыні 26 метраў.



У вучэбна-трэніровачным цэнтры.




Панэль у вучэбна-трэніровачным цэнтры.




Пад'езд да БелАЭС.



Адзін з новых дамоў у Астраўцы.




Прынцып работы вода-вадзянога энергетычнага рэактара. На БелАЭС плануюцца два энергаблокі тыпу ВВЭР-1200/491.

## Як працуе ядзерны энергаблок?

Існуе шмат разнастайных канструкцый ядзерных рэактараў, але ўсе яны маюць аднолькавыя элементы.

Галоўная частка любога ядзернага рэактара – актыўная зона. Менавіта ў ёй знаходзіцца ядзернае паліва і працякае ланцуговая рэакцыя дзялення ядраў урану. Пры ланцуговай рэакцыі вылучаецца велізарная колькасць цеплавой энергіі. Каб яе адводзіць, праз актыўную зону прапампоўваецца цепланоська – у большасці энергетычных рэактараў цепланоськай служыць вада высокай ступені ачысткі.

Цяпло, якое перадаецца вадзе, выкарыстоўваецца для вытворчасці вадзяной пары. Пара паступае на паравую турбіну, якая круціць ротар электрагенератара – так і ўтвараецца электрычны ток.

Прынцып работы АЭС не з'яўляецца чымсьці ўнікальным – цеплавыя станцыі на вугалі і нафце працуюць па аналагічнай схеме: вада награваецца → ператвараецца ў пару → пара ідзе на турбіну → турбіна круціць ротар электрагенератара. Адрозненне ў тым, што на АЭС вада награваецца за кошт цеплавой энергіі, якая вылучаецца пры дзяленні ядра ўрану.

### Колькі АЭС у свеце?

Па дадзеных Міжнароднага агенцтва па атамнай энергіі, на пачатак 2014 года ў свеце налічвалася 438 энергаблокаў.

**Паводле аддзела інфармацыі і грамадскіх сувязяў Беларускай АЭС.**

### Неадназначнае стаўленне да АЭС

Хаця беларускі бок і запэўнівае ў бяспечнасці АЭС на Астравеччыне, у міжнароднай супольнасці стаўленне неадназначнае. Летась у сакавіку міністр замежных спраў Літвы **Лінас Лінкявічус** заўважыў, што Беларусь не прытрымліваецца міжнародных норм бяспекі: “Беларускія ўлады не выказваюць гатоўнасці выканаць абяцанне наконт тэставання АЭС у неспрыяльных умовах”.

Летась 10 ліпеня на будоўлі Астравецкай АЭС адбылася аварыя: падчас спробы ўстаноўкі корпуса аднаго з рэактараў 330-тонная канструкцыя звалілася з вышыні ў некалькі метраў.

**Аддзел інфармацыі “РГ”.**

## Чаму менавіта уран выкарыстоўваецца пры вырабе паліва для ядзернай энергетыкі?

Уран – адзіны элемент табліцы Мендзялеева, ізатоп якога сустракаецца ў прыродзе і добра дзеліцца павольнымі нейтронамі. Гэта неабходна пры стварэнні тэхнічных умоў для ланцуговай рэакцыі дзялення ў ядзерных рэактарах. Такімі ўласцівасцямі валодаюць і некаторыя іншыя ядзерныя матэрыялы, аднак іх у прыродзе няма, яны могуць быць атрыманыя толькі з абавязковым выкарыстаннем тых жа ядзерных рэактараў. Таму такія ядзерныя матэрыялы прынята называць другаснымі, у адрозненне ад першаснага ўрану-235, які ў ядзернай энергетыцы нічым не замяніць.

### Дзе размешчаны ўранавыя радовішчы ў свеце?

Сумарныя сусветныя запасы ўрану ацэньваюцца велічынямі ад 5 да 11 мільёнаў тон. Лідары па колькасці запасаў – Аўстралія, Казахстан і ПАР. За імі ідуць Намібія, Канада, Нігерыя, Узбекістан і ЗША.

НАВІНЫ

## “Смаргонь” саступіла ў гасцях

СМАРГОНЬ

ФК “Смаргонь” спыніў удалую выязную серыю. У Стоўбцах 22 красавіка смаргонцы прайгралі “Нёману-Агра” 1:3.

У першым тайме “Смаргонь” прапусціла тры галы. Адзіны гол у смаргонцаў на 60-й хвіліне забіў **Павел Дзямідчык.**

Пасля трэцяга тура “Смаргонь” займае другое месца ў турнірнай табліцы. Наступны матч 29 красавіка каманда, нарэшце, правядзе дома супраць “Оршы”.

## Ашмянская каманда пачала чэмпіянат з буйной перамогі

АШМЯНЫ

“Ашмяны-БДУФК” 22 красавіка дамашнім матчам стартавалі ў чэмпіянаце Беларусі па футболе ў другой лізе. У Ашмянах каманда прымала “СДЮШАР-3” з Пінска.

– У першым тайме каманды прыглядаліся адна да адной, асноўныя дзеянні праходзілі ў цэнтры поля. Толькі ў канцы тайма ашмянцы правялі некалькі вострых атак, – расказаў заўзятар “Ашмянаў-БДУФК” **Аляксандр Навумчык**. – На 36-й хвіліне лепшы бамбардзір нашай каманды мінулых сезонаў **Януш Ладуцька** адкрыў лік у матчы. Праз дзве хвіліны **Вадзім Міхалевіч** падвоіў перавагу. У другім тайме гаспадары цалкам перахапілі ініцыятыву. Стваралі шмат небяспечных момантаў каля варот гасцей, але рэалізаваць іх не ўдавалася. “Прарвала” толькі ў канцы матча.

– На 85-й хвіліне Януша Ладуцьку не па правілах сустрэлі ў штрафной гасцей, і суддзя прызначыў пенальці. Рэалізаваў яго **Яўген Карпека**. Праз некалькі хвілін ён жа аформіў дубль і давёў лік да разгромнага 4:0, – дадаў Аляксандр.

У пасляматчавым інтэрв'ю галоўны трэнер “Ашмянаў-БДУФК” **Антуан Маёраў** прызнаўся: “Вынікам, вядома, задаволены, натуральна, ёсць нейкія памылкі. Столькі момантаў не рэалізоўваць не дазваляецца”.

А ў інтэрв'ю тэлепраграме “Козел пра футбол” ён расказаў пра клубныя справы:

– Каманда базуецца ў Мінску. Увесь трэніровачны працэс праходзіць у сталіцы. Мы сюды прыязджаем толькі на гульні, і тут спрабуем развіваць ашмянскі футбол. Імкнёмся паказваць добры вынік, таму заўзятары прыходзяць нават пры не лепшым надвор'і. Дапамагаюць і гарадскія ўлады, і дзіцяча-юнацкі футбол у Ашмянах падымаем. Мы сумесная каманда “Ашмянаў” і БДУФК...

Але пасля гэтай перамогі не шукайце “Ашмяны-БДУФК” уверсе турнірнай табліцы. Яна займае апошняе месца з мінус двума ачкамі. Справа ў тым, што выканаўчы камітэт АБФФ па справе аб дамоўных матчах прыняў рашэнне пазбавіць ашмянскую каманду пяці ачкоў на старце.


Фота Аляксандра НАВУМЧЫКА.

На матч завітаў чацвераногі заўзятар.

## Смаргонскія юнакі – першыя

СМАРГОНЬ

Ад 18 да 20 красавіка ў Гродне праходзіла спартакіяда школьнікаў Гродзенскай вобласці па футболе сярод юнакоў 2003-2004 гадоў нараджэння. Удзельнічалі ў ёй шэсць каманд: з Гродна, Гродзенскага, Слонімскага, Дзятлаўскага, Лідскага і Смаргонскага раёнаў. Гульні праходзілі па кругавой сістэме, паведамляе дзіцяча-юнацкая спартыўная школа па футболе Смаргоні.

Каманда Смаргонскага раёна выйграла чатыры матчы з буйным лікам і адну сустрэчу завяршыла ўнічыю. У выніку заняла першае месца. Трэніруе яе **Уладзіслаў Дукса**.

## Чэмпіянат выйграла “РКП Нарач”

МЯДЗЕЛ

Чэмпіянат Мядзельскага раёна па міні-футболе-2017 выйграла каманда “РКП Нарач”. На другім месцы – “Спадарожнік”, на трэцім – “ІП Мядзел”. Пра гэта паведамляе суполка “ЗЛЖ Мядзельшчыны” Укантакце.

**Аддзел інфармацыі.**

# Трохразовая чэмпіёнка Беларусі па дзюдо жыве ў Смаргоні

СМАРГОНЬ

**Маленькай дзяўчынкай Ганна любіла перабіраць спартыўныя медалі свайго дзядулі, распяхоўвага валейбаліста. “А ў мяне іх будзе больш,” – казала яна бацькам…**


Фота з сямейнага архіву Ганны МАЦКО.

Аня Мацко з трэнерам Юрыем Гулецкім на міжнародных спаборніцтвах у Лідзе.

Сёння ў смаргонскай дзюдаісткі, трохразовай чэмпіёнкі Беларусі па дзюдо, 14-гадовай **Ганны Мацко** 32 медалі.

– Сем медалёў толькі па баскетболе, – удакладняе дзяўчынка.

Аказалася, спачатку Ганна займалася баскетболам. Пасля ў яе жыцці з'явілася дзюдо.

Некаторы час спартсменка займалася адначасова двума відамі спорту.

### З трэніровак прыходзіла ў дзесяць вечара

**Аксана**, мама Ані, прыгадвае, як не проста было дзяўчынцы:

> **– Дачка прыходзіла са школы ў гадзіну, садзілася за ўрокі. Каля пяці ішла на баскетбол. Потым адразу бегла на трэніроўку па дзюдо. Дадому прыходзіла каля дзесяці вечара.**

Дзяўчынка пачала стамляцца, з'явіўся галаўны боль. Трэба было выбіраць нешта адно. Прафесійныя аргументамі дапамог трэнер па дзюдо **Юры Гулецкі**.

Ён растлумачыў дзяўчынцы, што баскетбол – гэта камандны від спорту. І якой бы спартыўнай зоркай яна ні была, перамога не будзе залежаць толькі ад яе. А ў дзюдо поспех спартсмена залежыць выключна ад яго самога.

Так Аня абрала дзюдо і ўжо пяць гадоў займаецца ў смаргонскім спартыўным комплексе.

Чаму барацьба, а не больш звыклы дзявочы занятак: вышыванне ці пляценне з бісеру? Тут у мамы чэмпіёнкі адназначны адказ: на такія рэчы ў дзяўчынкі не хапіла б ні ўседлівасці, ні цярплівасці.

З 25 медалёў па дзюдо найбольш дарагія для Ані тры залатыя, два срэбраныя з юнацкіх спартакіяд Беларусі і бронза міжнароднага турніру “Кубак Віктара Юртава” ў Лідзе. За мяжой Аня выступала ў Эстоніі, у Тарту, і адтуль таксама прывезла бронзавы медаль.

### Хто рызыкне пакрыўдзіць чэмпіёнку па дзюдо?

Аня вучыцца ў смаргонскай школе №7. Аднакласнікі і настаўнікі ведаюць пра яе занятак. Многія цікавяцца, як Аня выступіла на чарговых спаборніцтвах.

У класе дзяўчынку не крыўдзяць, але не таму, што баяцца “атрымаць”. Проста клас спакойны, кажа Аня. І ўвогуле за пяць год, па словах спартсменкі, не было выпадкаў, калі прыёмы дзюдо ёй прыйшлося прымяняць у паўсядзённым жыцці.

Адзнакі ў школе пераконваюць, што дзюдо не перашкаджае Ані вучыцца. У дзённіку дзевяцікласніцы – “дзявяткі” і “дзясяткі”. А вось на нейкія іншыя захапленні часу не стае: вучоба і спорт забіраюць увесь.

Каб “не выбівацца” са сваёй вагавой катэгорыі, за месяц да спаборніцтваў Аня садзіцца на дыету. За два-тры тыдні адмаўляецца ад мучнога, салодкага і смажанага. У яе рацыёне – толькі вараныя і абястлушчаныя прадукты. Штодзённа, часцей вечарам, у Ані прабежкі.

Па словах дзюдаісткі, не здавацца і перамагаць дапамагае падтрымка трэнера. Яму дзяўчынка ўдзячная за свае спартыўныя поспехі. Не маламаважная і падтрымка блізкіх.

А яшчэ тое, што Аня – валявая дзяўчынка, дадае мама. Калі падчас выступленняў і трэніровак з'яўляюцца нейкія цяжкасці ці невялікія траўмы, то пра гэта амаль ніхто не ведае.

Калі спаборніцтвы адбываюцца ў іншым горадзе, Аня заўсёды тэлефануе маме перад пачаткам барацьбы і пасля яе.

Калі ж дачка спаборнічае ў Смаргоні, мама заўсёды прыходзіць падтрымаць яе. Аднак валявая дзяўчынка гэта не вельмі любіць.

Нягледзячы на поспехі, звязаць будучую прафесію з дзюдо Аня не збіраецца. Але трэніравацца будзе працягваць.

### У сям'і гадуюцца тры спартсменкі

Захапленне спортам у Ані ад дзядулі **Віктара Мацко**, лічыць Аксана. Кажа, што бацька ў маладыя гады распяхова гуляў у валейбол. Са спаборніцтвамі аб'ездзіў шмат краін былога СССР.

Цяпер дзядулю 57 гадоў, але спартыўную форму мужчына не страціў. Часам яго запрашаюць гуляць у каманду за адзін са смаргонскіх заводаў.

Добрыя спартыўныя здольнасці, па словах мамы, не толькі ў Ані. Сярэдняя Аксаніна дачка, другакласніца **Алеся**, у гарадскім спартыўным комплексе сур'ёзна займаецца баскетболам. І трэнер **Валеры Юрчанка** хваліць яе.

Самай меншай дачцэ, **Анжаліцы**, два гады. Здавалася б, у такім узросце ранавата прыяўляць нейкія спартыўныя здольнасці. І ўсё ж адзначаюць, што дзяўчынка вельмі гнуткая.

– Калі падрасце, трэба на гімнастыку аддаваць, – кажа Аксана.

**Даведка “РГ”. Дзюдо** – з японскай мовы перакладаецца як “мяккі шлях”. Гэта японскае баявое мастацтва, філасофія і спартыўнае адзінаборства без зброі. Яго стварыў Дзігара Кана. У адрозненне ад бокса і каратэ, асновай дзюдо з'яўляюцца кідкі, балявыя прыёмы. Ад грэка-рымскай і вольнай барацьбы дзюдо адрозніваецца меншым прымяненнем фізічнай сілы і большай разнастайнасцю дазволеных дзеянняў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



# Крыжаванка ад "Рэгіянальнай газеты"



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

2. Чэшскі аўтамабіль.
3. Мястэчка ў Валожынскім раёне, у якім нарадзіўся дзявяты прэзідэнт Ізраіля Шымон Перас.
4. Прымітыўнае млекакормячае з іголкамі, якое выношвае сваіх дзяцей у торбе.
7. Рэжысёр беларускага фільма "Вышэй за неба" (2012).
9. Сербскі нацыянальны абутак з загнутымі ўверх насамі.
11. Рака, на якой стаіць Жэнева.
13. Бахчавая расліна, якая апошнім часам усё часцей вырошчваецца ў Беларусі.
16. Страва з Усходу, у аснове якой – смажаныя ў фрыцюры шарыкі са здробленага нута.
17. Экзатычная жывёла з герба афрыканскай краіны Кот-д'Івуар.
18. Жывёла з герба Смаргоні.
19. Беларускі горад, у якім ўсталююць помнік маці.
20. "Не мела баба клопату, купіла ...".
21. Знакаміты беларус, які нядаўна адзначыў у Германіі свой 107-ы дзень народзінаў.
24. Польская каралеўна, якая стала жонкай князя ВКЛ Ягайлы.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

1. Акамянелая смала хвойных дрэў, якая найчасцей выкарыстоўваецца для вырабу жаночых упрыгажэнняў.
5. Невялікі драпежнік, які цягае курэй з падворку.
6. Беларускі пісьменнік, які сёлета атрымаў прэмію "Дэбют" за кнігу "Радзіва "Прудок".
7. Ніткі для вышыўкі.
8. Месца, дзе паганцы ўшаноўвалі сваіх багоў.
10. Другая назва краіны Мантэнэгра.
12. Аўтар рамана "Атланты і Карыятыды".
13. Нацыянальная валюта Харватыі.
14. Навука аб гербах.
15. Самы малады беларускі горад, заснаваны ў 1965 годзе.
19. Вялікі князь ВКЛ, пры якім княства расцягнулася ад мора да мора.
20. Горад, у якім ёсць помнік літары "Ў".
22. Беларуская птушка, якая выводзіць птушанят зімой.
23. Кірунак у авангардысцкім мастацтве, які на пачатку 20 стагоддзя заснаваў К. Малевіч.
25. Страва, пра якую А. Міцкевіч пісаў: "Бярэцца да гэтага сечана кісла капуста,/ сама, як той кажа, у рот яна лезе, як клуста;/ закрыта ў катле, яна ў вогкім нутры абымае/ найлепшага мяса кускі, да сябе прытуляе".

АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ З №16.

**Па гарызанталі.** 1. Імператыў. 2. Птушкі. 4. Спазняецца. 7. Інакш. 8. Царква. 9. Жор. 13. Дзюбель. 16. Бульба. 17. Флейта. 18. Долата. 19. Гітлер. 20. Дэізм. 24. Смайлік. 26. Кісет. 27. Галілей. 28. Манюка. 29. Слімак. 31. Саргасава. 33. Палын. 34. Косці. 35. Правансаль.

**Па вертыкалі.** 3. Пустыня. 5. Падла. 6. Пігмаліён. 10. Труфель. 11. Далікатэс. 12. Манокль. 14. Легенда. 15. Дэбет. 16. Беларусь. 19. Гедымін. 21. Гультай. 22. Пельмені. 23. Дакумент. 25. Загрэб. 26. Курэнне. 29. Сукенкі. 30. Шліман. 32. Гароднікі. 33. Прэцэдэнт. 36. Прафан.


Трымай мозг у тонусе

Выпісвай "Рэгіянальную газету"

63212

падпісны індэкс




## Мінскі абласны драматычны тэатр

**РЭПЕРТУАР НА КРАСАВІК**

**РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ**

**Всё будет хороШОУ!**" (прыгодніцкае шоу-прадстаўленне), Алег Чэчанеў
27 красавіка – у 12:30

**ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ**

"**13**" (камедыя ў 2-х дзеях), *Рэй Куні*
26 красавіка – у 19:00

"**Камедыя**" (камедыя ў 2-х дзеях), Уладзімір Рудаў
28 красавіка – у 19:00

Тэатр мае права на замену спектакляў.
*Маладзечна, вул.Чкалава, 7.*

Тэлефоны:
**74-63-86** – наместнік дырэктара,
**74-63-88** – галоўны адміністратар,
**74-63-85** – каса.
E-mail: modt@tut.by
Сайт: theatre-modt.by

УНП 00066659

## Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

**РЭПЕРТУАР НА КРАСАВІК**

**Страшнік Гам** (музычная казка), *П.Васючэнка,* (бел.)
30 красавіка – у 12:00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе:
***Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.***
Тэл. (8-0176) **75-36-73, 50-56-96.**

УНП 600136804

● ГАРАСКОП

# Меню і зоркі

**Астролагі сцвярджаюць, што дыета па знаку задыяка дае магчымасць захаваць здароўе.**



**АВЕН.** Прадстаўнікі гэтага знака вельмі шмат трацяць энергіі. Таму вам патрэбны фосфар, якога больш за ўсё ў рыбе і морапрадуктах. Ешце тварог, сыры, ёгурты. Налягайце на буракі, моркву, квяцістую капусту, агуркі, яблыкі, фінікі, салату, цыбулю, вінаград, бананы, арэхі. Сярод любімых – фісташкі і міндаль.



**ЦЯЛЕЦ**. Вы вельмі працавітыя. А яшчэ шмат хто з вас схільны да паўнаты, таму адмоўцеся ад мучнога і вострых прыправаў, якія ўзбуджаюць апетыт. Ешце моркву, буракі, гарбузы, радыску, капусту, асабліва квяцістую. Няхай на стале будуць рыба, морапрадукты і алеі, арэхі (міндаль), ялавічына, сыр. У чаі дадавайце настой рамонку.



**БЛІЗНЯТЫ.** Вам неабходны пратэін, якога шмат у мясе, яйках, арэхах, соі, зялёным гарошку. Карысныя фасоля, баклажаны. Не грэбуйце аліўкамі і грушамі. Цяжкую ежу ешце як мага радзей.



**РАК.** Вам трэба асабліва сачыць за тым, што вы ясце. Слабае месца ў людзей гэтага знака – страўнік і кішэчнік. Ешце часта і невялікімі порцыямі. Карысныя мяса, рыба, супы, а таксама ўсе кісламалочныя прадукты. На сняданне варыце малочныя кашы са злакаў. Абмяжуйце да мінімуму ўсё вэнджанае і смажанае.



**ЛЕЎ.** Вам падыдуць цытрусавыя, міндаль, салата, яблыкі, слівы, агуркі, дурніцы, куры, сыр, соя, морапрадукты. Дыета павінна ўтрымліваць мала крухмалу і цукру. Адзінае, што вам трэба – гэта ўважліва прыслухоўвацца да арганізма. Ён падкажа, што выбраць і калі спыніцца. Ешце няспешна – тады вы не зробіце памылкі, і ежа прынясе вашаму арганізму карысць, а не шкоду.



**ДЗЕВА.** Каву замяніце на чай. Карысныя вам аўсянка, вараная агародніна, свежыя фрукты, салата, цыкорыя, міндаль, кабачкі, сыр, грушы. Кансервы, вэнджаніна і ласункі непажаданыя.



**ШАЛІ.** Пазбягайце вострых прыправаў. Рацыён павінны ўключаць крупы, кукурузу, моркву, інжыр, яблыкі, міндаль, персікі. Добрай крыніцай вітамінаў для вас стануць прарослыя злакі.



**СКАРПІЁН.** Вам карысная малакаларыйная ежа: поснае мяса, морапрадукты, кураціна, арэхі, соя. Трэба есці шмат агародніны і фруктаў. Карысныя травы: базілік, крапіва. І адна парада: не піце вельмі халодныя і, наадварот, моцна гарачыя напоі.



**СТРАЛЕЦ.** Адмоўцеся ад тлустай ежы, ешце прадукты з утрыманнем вітамінаў С і В: цытрусавыя, цялячую печань, жаўткі, інжыр, чарнасліў. У абед з'ядайце некалькі грэцкіх арэхаў – гэта зарадзіць вас энергіяй. Звядзіце да мінімуму спажыванне цукру.



**КАЗЯРОГ.** Вы непатрабавальныя да яды, даволі раўнадушныя да далікатэсаў, толькі любіце салодкае. Вы адзіны знак, які можа не баяцца сапсаваць фігуру. Павінны адмовіцца ад тлустай ежы і алкаголю.



**ВАДАЛЕЙ.** Вам неабходныя свежыя фрукты, цвёрдыя сыры, зеляніна, арэхі, рыба. А таксама хлорысты натрый, якога шмат у капусце, спаржы, моркве, збожжавых, інжыры. Цукар замяніце на мёд і ўстрымлівайцеся ад торцікаў-пірожных.



**РЫБЫ.** Для вас карыснае нятлустае мяса, яйкі, рыба, арэхі, семачкі, сыр. Неабходны вам фасфат жалеза, які ўтрымліваецца ў сырой агародніне і разынках, і як мага больш морапрадуктаў. Многія з вас любяць усходнюю кухню, таму дадавайце ў стравы прыправы і травы.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 3 | | | 4 | | | |
| | 2 | | | 1 | | | | |
| | | | | | | 6 | 4 | 2 |
| | | | | 6 | 3 | | 9 | |
| 6 | | 2 | 9 | | 1 | 5 | | 4 |
| | 7 | | 4 | 5 | | | | |
| 5 | 6 | 9 | | | | | | |
| | | | | 7 | | | 5 | |
| | | | 2 | | | 8 | | |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

ISSN 1991-7155
9 771991 715006
Рэгіянальная газета. Rh.by
тэлетыдзень
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

● НАДВОР'Е

## 29 красавіка, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +4 / +6 | | +10 / +18 | | +9 / +7 | | +5 / +12 | |
| | 737 | ← 6 | 736 | ↗ 4 | 744 | ↓ 1 | 748 | ↓ 3 |
| Вільня | 3 / +4 | | +5 / +14 | | +5 / +10 | | +1 / +11 | |
| | 749 | ↙ 8 | 744 | ↗ 5 | 754 | ↗ 3 | 758 | ↘ 1 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 5.52
Захад 20.29
Даўжыня дня 14.37

Усход 4.33
Захад 15.02
Квадра 4




● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОРЬЯ

НАРАЧ

Мінімальная тэмпература -2,6 °С у 1978 годзе
Максімальная тэмпература +29 °С у 2012 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 3,4 мм у 2015 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

● Плаціць менш за ваду, газ і электрычнасць? "Лёгка!" – кажуць кіраўнікі новага экалагічнага праекта, які стартуе на Вілейшчыне. Аб тым, як бюджэтныя ўстановы Вілейкі будуць вучыцца па-новаму кіраваць энергарэсурсамі, чытайце ў наступным нумары "РГ".

Товары для дачи
✓Теплицы ✓Беседки ✓Души ✓Мотоблоки
Рассрочка
Доставка по Беларуси = 0 руб.
Первый поставщик в Республике Беларусь
(8-044) 549-16-44
ООО «Капасити». УНП 691786577

ПРИНИМАЕМ МЕТАЛЛОЛОМ!
Молодечненский цех ОАО "Белвторчермет" принимает от населения
БЫТОВОЙ ЛОМ ЧЁРНЫХ МЕТАЛЛОВ
По следующим ценам:
Металлолом стальной – 0,20 руб. за 1 кг.
Металлолом чугунный – 0,23 руб. за 1 кг.
Металлолом несортированный – 0,18 руб. за 1 кг.
Расчёты за металлолом производятся в день сдачи!
Адрес цеха:
г. Молодечно, ул. Железнодорожная, 57
Телефоны: (80176) 77-09-04, (8044) 796-50-53
ОАО "Белвторчермет" УНП 100071565

Сейчас самое время!
ОкнаХом ГАРАНТИЯ КАЧЕСТВА
8033 340-06-06
8029 340-06-06
до 30% скидки
ОКНА и ДВЕРИ ПВХ и металлические
Рассрочка без первоначального взноса до 12 месяцев!
Спешите!
Срок действия акции ограничен!
Позвони и узнай подробности!
Только в этом месяце специальное предложение!
УНП 691403311 ООО "ОкнаХом"

● ПРОСТА АНЕКДОТ

Прыходзіш стомлены з працы, а яна табе супчык гарачанькі і катлетку. У такія моманты разумееш, як табе пашанцавала з мікрахвалёўкай.

***

– Я часам адчуваю, што маёй дзяўчыне са мной сумна. Але калі яна ўчора дастала ручку і пачала рашаць судоку, я зразумеў, што пабіў усе рэкорды.

***

– Дурніца ты.
– Але прыгожая.
– Хто табе такое сказаў?
– Ты!
– І ты паверыла?
– Канешне.
– Ну і дурніца.
– Але прыгожая.

***

У супермаркеце сямейная пара падыходзіць з двума набітымі кошыкамі да касы.
Жонка:
– Ой! Забыліся туалетную паперу ўзяць!
Муж:
– Не трэба, у нас чэк на 60 метраў будзе.

Врач психотерапевт Н.В. СУРОВЦЕВ
Сайт www.psyhoterapia.by
Кодирование
г. Молодечно, ул. Будавников 4а, каб.35
Тел. (8-044) 456-25-46
(Прием по предварительной записи)
УНП 691513732

Профессиональная
РЕСТАВРАЦИЯ ЭМАЛИ ВАНН
Стаж – 15 лет
Сантехнические работы
(8029) 989-56-67
(8029) 553-73-34
(80176) 50-10-18
ИП Кочкин А. А. УНН 190793011

ОКНА из ПВХ
• ПРОФИЛЬ REXAY -730
• ГАРАНТИЯ 10 лет
• ВЕСЬ КОМПЛЕКС УСЛУГ
Тел. 8029 60 60 898 Велком
8029 86 54 689 МТС
Быстрый кредит
Товар сертифицирован
ИП Луцкая И.М. УНП 690695102

УНП 600203065
Снижение цен в ЗАО "Молодечномебель"
На наборы корпусной мебели -14%
На наборы мягкой мебели -17%
На наборы мягкой мебели из натуральной кожи -30%
ЛИКВИДАЦИЯ коллекции 2016 года по отпускным ценам завода изготовителя
РАССРОЧКА на 12 месяцев на наборы мягкой мебели по сниженным ценам
Молодечно
ул.Металлистов,1. Т. (8033) 665-18-81
ул. Либава-Роменская, 83-а. Т. (8044) 708-51-81

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

## Якая роля сацсетак у вашым жыцці?

**Вольга Хацяновіч, журналістка, Астравец:**
– Не скажу, што гэта роля значная, аднак дастатковая. Сацсеткі – гэта магчымасць даведацца пра навіны сяброў, навіны горада, знайсці тэмы для журналісцкіх матэрыялаў.

**Аляксандр Бабій, вучань, Маладзечна:**
– Сацыяльныя сеткі – гэта магчымасць кантактаваць з сябрамі з іншых гарадоў. Тут я чытаю навіны і слухаю музыку.

**Антаніна Галубовіч, педагог, Маладзечна:**
– Адразу сацыяльныя сеткі былі цікавым месцам, дзе можна было знайсці аднакласнікаў, аднагрупнікаў, даведацца пра іх, дамовіцца пра сустрэчу. Цяпер сацсеткі сталі настолькі звыклымі і ад таго нецікавымі.

**Яна Вайтовіч, студэнтка, Маладзечна:**
– Я не сказала б, што сацсеткі займаюць у маім жыцці важнае месца. Можна абысціся і без іх. Але яны прыносяць карысць. Напрыклад, можна заўсёды ведаць пра тое, што адбываецца ў свеце, проста гартаючы старонку навінаў у сваім акаўнце, можна кантактаваць з чалавекам на адлегласці, калі няма магчымасці патэлефанаваць. Сацсеткі забіваюць час і сум.

**Галіна Бяляўская, пенсіянерка, Вілейка:**
– Не так даўно сын стварыў старонку ў "Аднакласніках". Карыстаюся пакуль мала, бо не ўсё зразумела.

**Дар'я Ліс, пісьменніца, журналістка, Смаргонь:**
– Сацсеткі – як кава. Дзве-тры кубкі ў дзень – гэта добра. А больш – ужо шкодна. І ўсё ж лепш бачыць жывых людзей. Хаця б час ад часу.

**Вікторыя Іванец, работнік культуры, Вілейка:**
– У маім жыцці яны займаюць не так многа месца, як, напрыклад, у падлетка. Мне сацсеткі патрэбныя часцей для працы. Я культработнік, вяду гурткі для падлеткаў. Часта праінфармаваць дзяцей пра нешта дапамагаюць сацсеткі. Тут я пакідаю афішы мерапрыемстваў, расклад заняткаў. Для асабістых мэт сацсеткамі карыстаюся рэдка, часцей тэлефаную ці сустракаюся з чалавекам.

Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№17 (1148) 28.04.2017. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02330/190 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 400. Падпісана ў друк у 9.00 27.04.2017.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.
Тэл.: (80176) 53-78-04 (рэклама, факс), 53-78-05 (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), 53-78-06 (журналісты), (8029) 573-28-47, 676-84-20. E-mail: reklama@rh.by, regionnews@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.